царкоўна і культурна-асветны часопіс з малюнкамі для дзяцей. Ён выдаваўся на 16 старонках. У ім друкаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Янкі Быліны, Максіма Танка, Ніны Тарас, Янкі Журбы, Міхася Васілька і многіх іншых беларускіх літаратараў, а таксама беларускія казкі, каляндарна-земляробчыя святы, народныя звычаі, артыкулы аб прыродзе, пераклады з рускай і польскай моў і г.д. Падпіска на часопіс прымалася ў Варшаве на вуліцы Парыска, 27. Цана аднаго нумару каштавала 10 гр. з перасылкай. Гэта былі невялікія грошы. Часопіс не толькі можна было выпісваць, але і купіць у Варшаве, а таксама ў Вільні ў кнігарні "Пагоня", якая месцілася на Завальнай вуліцы, 1.

Часопіс "Снапок" спыніў сваё існаванне ў верасні 1939 года. Але ён усё ж адыграў пэўную ролю ў пашырэнні асветы на роднай мове, садзейнічаў фарміраванню дэмакратычных поглядаў, абуджаў нацыянальную свядомасць, прапагандаваў родную літаратуру і культуру.




**Вокладка першага зборніка вершаў "Чыжык беларускі" Гальяша Леўчыка. Вільня, 1912 г.**

У 1936 годзе ў Варшаву з Познані прыязджае беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Тут ён жыве, выступае з канцэртамі і спявае на польскім радыё. У свае радаёканцэрты спявак заўсёды ўключаў і беларускія песні. Вакол Міхася Забэйды-Суміцкага, кажучы сённяшнім слэнгам, тусаваліся беларусы Варшавы. Са спеваком добра быў знаёмы і Гальяш Леўчык. Бацька Гальяша быў родам з вёскі Шэйпічы, што блізу Ружанаў. У гэтай вёсцы нарадзіўся і Міхась Забэйда-Суміцкі. Спявак нават кахаў Стасю Ляўковіч — сваячніцу Гальяша Леўчыка (сапраўднае прозвішча Ляўковіч). У Варшаве землякі сустрэліся. Ім было пра што пагутарыць, каго і што ўспомніць. Аднойчы сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі ў кансерваторыі канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага. Часопіс "Калосьсе" (№1(10), 1937) пісаў: "27.02.37 у варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прасьпяваных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія". А Пётр Ластаўка згадваў (Беларускі каляндар. Беласток, 1980. С.148): "Пакідаючы кансерваторыю, слухачы гаварылі, што вось і беларусы маюць свайго Кепуру, а "Express Poranny" у сваёй карэспандэнцыі пісаў 28 мая: "Цудоўныя гэтыя беларускія песні, ды яшчэ ў такім выкананні!". Прыхільна адгукнуліся аб выступленні Забэйды таксама і іншыя газеты, падкрэсліваючы, што даўно не было ў кансерваторыі такога добрага канцэрта".

Летам 1939 года сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі сустрэчу з Максімам Танкам. На сустрэчу прыйшлі 50 польскіх літаратараў, дзесяткі беларусаў з усёй Варшавы. Вечарына, як згадвае Пятро Ластаўка ў вышэй названым “Беларускім календары”, працягвалася тры гадзіны. Максім Танк чытаў свае вершы і па-беларуску, і па-польску. У тагачаснай польскай прэсе з’явіліся артыкулы з наступнымі загалоўкамі: “Максім Танк у Варшаве”, “Максім Танк — беларускі Ясенін” і г.д. Беларускі паэт тады проста зачараў усіх прысутных сваёй паэзіяй і сваім выступленнем.

На вялікі жаль, Другая сусветная вайна спыніла працу Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Міхась Забэйда-Суміцкі ў траўні 1940 пакінуў Варшаву і выехаў у Прагу. А Гальяш Леўчык летам 1944 года цяжка хворы памірае ў Варшаве, а магчыма па дарозе з Варшавы ў Слонім.



**Хата Гальяша Леўчыка ў Слоніме, не захавалася**



**Гальяш Леўчык у Варшаве, 1941 г.**

# ЛЁС ЮНАКА СЛОНІМСКАЙ ВЁСКІ



**Рыгор Акулевіч**

Жыў некалі на Слонімшчыне дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, грамадска-палітычнны акітывіст у ў Канадзе, выдавец і публіцыст Рыгор Акулевіч (1907-1974). Цяпер пра яго на Слонімшчыне і ў Беларусі амаль забыліся, і яго зусім не згадваюць. А ў 1920-х гадах імя Рыгора Акулевіча не сыходзіла з вуснаў слонімскай вясковай моладзі.

Нарадзіўся Рыгор Акулевіч у вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага павета ў звычайнай сялянскай сям'і. Сям'я была вялікая: Рыгор меў яшчэ некалькі родных і шмат стрыечных братоў. Амаль усе з іх прымалі актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў былой Заходняй Беларусі. Некалькі братоў-Акулевічаў не вярнуліся дамоў з Другой сусветнай вайны.

У 1926 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка, як і па ўсёй Заходняй Беларусі, была створана ячэйка КПЗБ. У яе ўваходзілі толькі тры чалавекі: Рыгор Акулевіч, Сцяпан Філітовіч і Сцяпан Ігнатовіч. У гэты самы год вясковыя хлопцы арганізоўваюць і гурток Беларускай рабоча-сялянскай Грамады. Старшынёй гуртка быў абраны Сцяпан Філітовіч, а

сакратаром – Рыгор Акулевіч. А потым хутка вяскоўцы ствараюць Таварыства беларускай школы (ТБШ). Да іх далучыліся дзесяткі хлопцаў і дзяўчат не толькі з вёскі Вялікая Кракотка, але і з суседніх вёсак і хутароў. Вясковая моладзь распачынае самую актыўную дзейнасць на ніве культурна-асветнай працы на вёсцы. Юнакі і дзяўчаты патрабуюць ад польскіх уладаў адкрыццё беларускіх школ, выданне газет і часопісаў на роднай мове, адкрыццё беларускіх Народных дамоў і г.д.



**Сябры ТБШ вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета, але без Рыгора Акулевіча, 1930-я гады**

У 1927 годзе вясковая моладзь у Вялікай Кракотцы вырашыла адкрыць бібліятэку імя Янкі Купалы. Сваю працу яна пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў брат Рыгора Акулевіча Сямён Акулевіч. Спачатку сабралі для бібліятэкі каля трыццаці кніг. У асноўным гэта былі творы для вясковых драмгурткоў. Энтузіясты культурнай работы працягвалі збіраць у насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры. І кніжны фонд увесь час папаўняўся. У канцы 1928 года бібліятэка налічвала каля адной тысячы назваў беларускіх, рускіх і польскіх кніг і каля двухсот чытачоў. Тады кракоцкая моладзь разам з паэтам Валянцінам Таўлаем, якія вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі, закупілі і прывезлі сотні кніг рускай і беларускай класікі. Бібліятэка імя Янкі Купалы з’яўлялася першай культурнай установай у Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа.




**Кніга Рыгора Акулевіча**

Але польскія ўлады пільна сачылі за беларускім рухам на вёсцы. Асабліва за вясковымі актывістамі. Найперш пад пільным вокам паліцыі быў Рыгор Акулевіч. Яго сябры папярэдзілі, што ў любы час Рыгора могуць арыштаваць і пасадзіць за краты. Таму ён праз знаёмых дамовіўся пра тое, каб пакінуць Слонімшчыну і Заходнюю Беларусь і эмігрыраваць. І ён хутка выязджае ў Канаду. Гэта адбылося ў 1928 годзе, калі юнаку быў толькі 21 год.

У Канадзе Рыгор Акулевіч, маючы нейкі вопыт арганізатара, "не спіць у шапку". Ён актыўна далучаецца да эмігрантаў, у асноўным да тых, якія прыехалі з Заходняй Беларусі, Украіны, Расіі. 5 сакавіка 1930 года ў Таронта ў бібліятэцы Украінскага рабочага дома адбыўся сход рабочых з мэтай стварэння самастойнай рабочай арганізацыі ў Канадзе. На сходзе з дакладам выступае Рыгор Акулевіч, і прысутныя ствараюць разам Рускі рабочы клуб (РРК) імя Максіма Горкага. Адным з кіраўнікоў клуба эмігранты аднагалосна выбіраюць Рыгора Акулевіча. Спачатку ў клуб уваходзілі 56 чалавек, а потым гэта ідэя была падхоплена па ўсёй Канадзе, і хутка стварылася яшчэ 5 падобных клубаў. А ў канцы 1930 года ў Таронта сябры ўсіх рабочых клубаў правялі свой першы з'езд. На з'ездзе было вырашана выдаваць на рускай мове сваю газету ў Канадзе, якую назвалі "Канадский гудок". У яе нумарах былі рэзка акрэслены прасавецкія і камуністычныя пазіцыі газеты ў духу таго часу. У першых нумарах "Канадского гудка" друкаваўся і "Беларускі куток" на беларускай мове. Але ён хутка знік. Таму што многія беларусы Канады газету і падобны куток проста ігнаравалі. Былы старшыня Рады БНР на эміграцыі Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903-1989) у газеце "Беларус" у 1968 годзе пісаў: "У "Канадским гудку" Акулевіч друкаваў у пяцёх нумарах "беларускі куток" (відаць, жывое йшчэ было ў яго беларускае сумленне грамадаўца), але закінуў яго быццам таму, што не было зацікаўлення ў чытачоў. Наіўнае апраўданне. Напэўна перамагла тут партыйная лінія, бо ж якраз тады ў БССР пачалося змаганне з нацдэмаўшчынай і траўля ўсяго беларускага, якая перанесена была й на эміграцыю. Курс русіфікацыі ў Беларусі стаўся ўзорам і для русіфікацыі эміграцыі".

Рух рабочых клубаў у Канадзе пашыраўся. А з 1933 года клубы называліся ўжо Рускімі рабоча-фермерскімі клубамі (РРФК) імя Максіма Горкага. У 1934 годзе іх у Канадзе ўжо дзейнічала 47. Сябры клубаў дапамагалі страйкаваму руху, стваралі рускія школы, ваявалі ў Іспаніі.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, актывісты рускіх клубаў вырашылі дапамагаць сваёй Радзіме – СССР. Яны арганізавалі камітэты дапамогі. Першы камітэт узнік у Манрэалі 17 ліпеня 1941 года. Сярод яго лідэраў і арганізатараў стаяў менавіта Рыгор Акулевіч. Хутка замест “Канадского гудка” стала выходзіць газета “Вестник”, якую ўзначальваў Акулевіч.

У траўні 1942 года ў Таронта была заснавана Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК). Нацыянальным сакратаром ФРК быў абраны Рыгор Акулевіч. Галоўнай справай гэтай фэдэрацыі стала кампанія па збору сродкаў для СССР у барацьбе з фашызмам. У 1942 годзе рускія канадцы сабралі больш за 7 мільёнаў долараў дапамогі, закупілі адну тысячу шпітальных ложкаў з поўным камплектам бялізны.

Многія сябры ФРК запісваліся добраахвотнікамі ў канадскі армейскі корпус. Сярод добраахвотнікаў быў і Рыгор Акулевіч. На фронце яго цяжка параніла. Летам 1945 года ён вярнуўся ў Канаду. Па яго ініцыятыве галоўнае праўленне ФРК закупіла дзве тысячы наручных швейцарскіх гадзіннікаў у падарунак медыцынскім работнікам Чырвонай Арміі. А ў 1947 годзе ФРК накіравала ў Мінск 4 камплекты рэнтгенаўскіх апаратаў: адзін для універсітэцкай клінікі і тры на ўласнае размеркаванне Міністэрства аховы здароўя БССР. Таксама былі накіраваны на Беларусь і 9 рэнтгенаўскіх флараскопаў. Атрымалі калгасныя кузні Беларусі і Украіны і 150 скрынак кавальскага абсталявання.



**Аляксандр Акулевіч – родны брат Рыгора Акулевіча. Загінуў на фронце ў 1941 годзе**

У снежні 1946 года Рыгор Акулевіч быў абраны прадстаўніком ФРК у славянскую дэлегацыю Канады на Сусветным славянскім кангрэсе ў Белградзе. У рамках праграмы кангрэса яму пашанцавала наведаць Бацькаўшчыну. 18 гадоў ён не быў на Радзіме. Таму ехаў сюды з вялікім хваляваннем і радасцю. Ён прыехаў у родную Вялікую Кракотку, спаткаўся са сваімі сябрамі, сваякамі, але шмат родных і сяброў убачыць ужо не ўдалося, бо яны загінулі на вайне, а таксама былі рэпрэсіраваны. Пра сваю паездку на Бацькаўшчыну Рыгор Акулевіч напісаў вялікі матэрыял і апублікаваў у некалькіх нумарах у канадскай газеце “Вестник”.

28 кастрычніка 1974 года Рыгора Акулевіча не стала. “Вестник” пісаў, што “ФРК не толькі асірацела, яна пазбавілася сваёй душы”.

Пры жыцці Рыгор Акулевіч выдаў на эміграцыі кнігу “50 год Беларускай рэспублікі” (Таронта, 1968) і кнігу “Рускія ў Канадзе”(Таронта, 1952).

Вось такім аказаўся лёс вясковага юнака заходнебеларускай вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета. І яшчэ. У 1968 годзе, калі Згуртаванне беларусаў Канады адзначала сваё 20-годдзе, былі заказаны на юбілейнае мерапрыемства запрашальныя білеты ў адной з прыватных друкарняў Таронта. Калі прыехаў забіраць усе запрашэнні архіяпіскап, Мітрапаліт Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, рэлігійны і грамадскі беларускі дзеяч Уладыка Мікалай, гаспадар друкарні папрасіў прабачэння і сказаў, што одно запрашэнне ўзяў адзін беларус са старой эміграцыі. “Акулевіч?” – спытаўся Уладыка. “Але, ён. А скуль вы ведаеце?” – зацікавіўся друкар. “Ведаю. Ну, што ж, узяў то ўзяў…”, -- адказаў Уладыка Мікалай, забраў заказ і паехаў.




**Пляменніца Янкі Купалы Ядзвіга Юліянаўна Раманоўская віншуе загадчыка Купалаўскай бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка Аляксандра Жыткевіча з 40-годдзем бібліятэкі, 1967 г.**

# РУДАЎКА. ТАЎЛАЙ. ЗМАГАННЕ



**Валянціну Таўлая 15 гадоў.**
**Рудаўка, 19 жніўня 1929 г.**

Вёска Рудаўка на Слонімшчыне — адна з аддаленых вёсак раёна. Ад Слоніма да Рудаўкі — 30 кіламетраў. Ніхто ніколі пра Рудаўку не згадаў бы, калі б там не прайшлі дзіцячыя і юначыя гады беларускага паэта, літаратуразнаўца, заходнебеларускага дзеяча Валянціна Таўлая (1914-1947).

З Рудаўкі быў родам бацька Валянціна Таўлая Павел Дзям'янавіч. Таму сям'я шмат гадоў жыла на радзіме бацькі. Адсюль Валянцін паступіў у Слонімскую настаўніцкую семінарыю, з якой яго ў 1925 годзе выключылі, бо адмовіўся юнак пісацца палякам.

У 1927 годзе паступіў у трэці клас Віленскай беларускай гімназіі. Але праз год яго выключаюць і з гэтай навучальнай ўстановы за ўдзел у вучнёўскім страйку. Пад паліцэйскім канвоем юнак быў выпраўлены да бацькоў у Рудаўку.

Так што Рудаўка для Валянціна Таўлая была і засталася роднаю вёскай назаўсёды. Сёння, праз 73 гады пасля таго, як не стала Валянціна



**Валянцін Таўлай з братам Сашам, 1918 г.**

Таўлая, захацелася паглядзець, як выглядае Таўлаеўская Рудаўка? Таму вырашыў завітаць у гэту далёкую слонімскую вёску. Ехаў з нейкім настроем, радасцю, бо ехаў туды, дзе бегаў маленькі Валік Таўлай, дзе ён вучыўся, скуль яго бацька адвозіў на возе да станцыі Азярніца, каб на цягніку даехаць у Слонім, Гародню ці ў Вільню…

Калі б сёння ўбачыў Валянцін Таўлай родную Рудаўку — ён ад убачанага жахлівага малюнка вёскі проста мог бы заплакаць. Не паверыце, мужны Таўлай пусціў бы слязу. Бо ён не пазнаў бы родную, некалі вясёлую, шматлюдную вёску, якой яна была ў 1920-1950-х гадах. Вёска-вуліца страшэнна апусцела. Пустыя хаты, нібы людзі просяцца, каб хтосьці зайшоў да іх, пратапіў печы, зашкліў бы вокны. Адна хата, другая, дзесятая… Усе пустыя, ніхто не жыве. Раптам з адной з іх выходзіць чалавек. Пытаюся, а людзі ў Рудаўцы жывуць? “Жывуць, але ў другім канцы вёскі. А ў пачатку вёскі толькі я і яшчэ адна сям’я”, — адказаў мужчына.



**Валянцін Таўлай з маці, бацькам і бабуляй, 1917 г.**

Іду далей па вёсцы. Сустракаю бабульку. Пытаюся: скуль вы шпацыруеце? “З суседняй вёскі Вялікая Кракотка, была ў царкве”, — адказала жанчына. “А чаму з Рудаўкі толькі вы адны ходзіце ў царкву?” — зноў задаю пытанне вясковай бабульцы. “Няма каму хадзіць, бо ўсе старыя. Чалавек трыццаць жыве. Няма ў нас крамы, лазні, нічога няма. Нават часам пагутарыць няма з кім. Прывезлі б нам людзей, хай жылі б тут, бо хат пустых хапае”, — пачала распавядаць вясковая кабета. “А вы ведаеце, што ваша вёска з’яўляецца радзімай паэта Валянціна Таўлая?”, — задаю пытанне старой. “Ведаю, — адказвае жанчына. — У доме № 77 жыве нават яго пляменнік Міхась Іванавіч Таўлай, завітайце да яго, ён вам раскажа пра Таўлая”, — параіла жанчына. Іду да

хаты Міхася Таўлая. Зачынены веснічкі і хата на замку. Кудысьці ён паехаў ці пайшоў. Не дачакаўся яго.

Ад хаты Міхася Таўлая іду далей па вёсцы. Пуста, ціха, запушчана, толькі вясковы сабачка падбег і пачаў глядзець мне проста ў фотааб'ектыў. Магчыма прасіў, каб даў кавалачак хлеба ці ўзрадаваўся, што ўбачыў жывую істоту…

На вялікі жаль, Валянцін Таўлай з Рудаўкі не памяшчаўся ў свой час, у свае пражытыя 33 гады. Гады Хрыста. Яго постаць выключна адметная, таленавітая, знакавая, мужная, ён прарастае ў многія часы, эпохі. Якіх стратаў здароўя, увагнанага ў сэрца калецтва, каштавалі потым, напрыклад, допыты ў катоўні ў Маладзечне, дзе ў яго, бывалага функцыянера, спрабавалі вырваць намеры пераходу мяжы ў Мінск – па загадкаваму выкліку, загадкаваму нават для самога Таўлая і Якуба Міско, земляка, з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Якуб Міско ў апошнія гады свайго жыцця часта расказваў пра жах тых допытаў, а яшчэ пра тое, што потым, ужо ў пасляваенны час ён, працуючы ў Мінску, у адной з цэнтральных газет, спрабаваў высветліць, якая ж ў тыя дні, у 1934 годзе адбылася важная нарада ў сталіцы рэспублікі, на якую выклікалі з падполля яго з Валянцінам Таўлаем? Не было такой нарады, яна не значылася. Выклікалі, можа дзеля… Ажно дрыжыкамі праймала жахлівая здагадка. Там, куды рвалася Таўлаева душа – там пачынала раскручвацца рэпрэсіўная машына, ёй патрэбны былі ўсё новыя ахвяры. Дарэчы, прагавітыя шасцерні ўжо ўцягвалі тады Алеся Салагуба, з якім Таўлай шчыра сябраваў.

Які ж ён быў цярністы і скалісты для Таўлая гэты ягоны шлях у творчае сталенне і ўзмужненне: сем гадоў турмы! Сем – самых маладых, патэнцыйна росквітных для працы таленту – забрала, праглынула, з'ела турма. Вось чаму паэт усімі, як кажуць фібрамі душы ўзненавідзеў краты – ва ўсіх сэнсах. Турма ведала, якім чынам таптаць таленты. Яна ведае і сёння, як гэта рабіць. Нават свой першы зборнік паэт назваў "Шляхі і краты", але ён не выйшаў пры жыцці з друку. Пасля смерці паэта гэты зборнік быў надрукаваны пад загалоўкам "Выбранае".

Творчы подзвіг Валянціна Таўлая быў у бітве яго верша, яго паэзіі з кратамі, у глыбока ўсхваляваным і філасофскім асэнсаванні гэтага мужнага паядынку, гэтага двухбою: паэта і турмы, паэта і кратаў над родным краем і ўласным лёсам. Ратуючыся ад судовага загубення, маю на ўвазе турмаў у Слоніме і Гародні, Таўлай, як вядома, перайшоў мяжу, сасмягла акунуўся ў грамадска-літаратурнае жыццё і ўжо ў Мінску не хаваўся нават ад свайго імя, бо лічыў, што яму ў Савецкай Беларусі ўжо не патрэбна былая падпольная канспірацыя. Ды яго ўсё ж рыхтавалі ў шлях зваротны. Клікала Заходняя – ёй быў ён больш патрэбны. Праводзіла да "пагранічнага ўзгорку вясны" даражэнькая Кацюша, мілая простая дзяўчына, работніца абутковай фабрыкі. Памяць паэта на Лукішках раніцца той балючай ростанню, калі каханню дарогу перайшла небяспечная праца ў падполлі, усё тая ж турма. Узамен перарванай інтымнасці – пакуты катоўні, немач нараў, мокрая глухасць сцен:

А як сцежка мая за высокай сцяной абарвецца
І на кратах абные крылом акрываўлены сцяг…



**Рудаўская баба Аўдоцця, якая гадавала Валянціна Таўлая**

Валянцін Таўлай у маленстве застаўся сіратой. Маці Марыя Антонаўна, вяртаючыся з сям'ёй з бежанства, на пад'ездзе да роднага парога, памерла ў Зэльве ад халеры. Гэта да яе, да магілы маці на зэльвенскіх могілках, нібыта на параду і паратунак, заспяшаўся Валянцін Таўлай, пасланы з Мінска ў Заходнюю. Ды па дарозе, вымушаны быў ён саскочыць на хаду з цягніка, вырываючыся з лапаў улёгшых за ім шпіцляў. Мінорная танальнасць ад страты маці напрасілася, дарэчы, у псеўдонім першага рукапіснага таго ж самага зборніка Таўлая–Паўлюка Сіраты "Шляхі і краты". Таму ўся сыноўняя любасць перадалася бацьку Паўлу Дзям'янавічу, слыннаму грамадаўцу, аўтарытэту на ўсю ваколіцу. Сына моцна дапякала адчуванне віны перад бацькам, няспоўненага абавязку перад ім, няспраўджаных бацькавых надзей на яго. Гэта бацька хадзіў з падаянкамі да астрожных брамаў, выглядаючы спаткання з любым Валянцінам. Зрэшты, гэта ён закінуў першыя зярняты свядомасці ў душу падлетка і справакаваў. Хоць і зусім не наўмысна, тое першае сутыкненне сына са слонімскай "прэпарандай", школай-паланізатаркай, што рыхтавала свежыя кадры для апалячвання. Незгаворлівы навучэнец усё ж настоеў, каб не "тутэйшым" і не палякам запісалі, а беларусам. Сцэна ў аповесці "Аб сабе" дужа каларытная, шматзначная. Вось яна:



**Хата ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне, дзе гадаваўся Валянцін Таўлай**

“…Пакуль настаўнік выгаварыў маё прозвішча, я ўжо стаяў. Настаўнік, нат не ўзнімаючы вачэй, задае шаблонныя пытанні…

–Нацыянальнасць? – пяро аўтаматычна выводзіць першыя літары.

–Беларуская.

Настаўнік глянуў на мяне. Не дачуў. Аднакурснікі пераглянуліся таксама.

–Нацыянальнасць?

–Беларуская.

Яшчэ раз не дачуў перапісчык. Я паўтарыў яшчэ раз.

–Першы раз чую пра такую нацыянальнасць. Дзе яна жыве? У Амерыцы?

–Жыве на Беларусі, напрыклад, у Слонімшчыне…

–Ага!.. Гэта значыць – тутэйшая? Та-ак!.. Але ж гэта – не нацыя. Кожны выхадзец з тутэйшых у людзі – становіцца палякам ці рускім. Прытым – ты вучышся ў польскай школе… Як жа запісаць?

–Пішыце: нацыянальнасці – беларускай!..

Пачынаецца спачатку, толькі больш нервова. Вучні разяўляюцца ад здзіўлення. Я трымаюся свайго. Пяро злосна скрыпіць, запісваючы мой упарты адказ.

–Родная мова ў сям’і?

–Беларуская.

–Няма такой мовы!

–Відаць ёсць – калі гаворым…

–Гэта мужыцкая гаворка, бескультурная трасянка, якую забываецца кожны культурны выхадзец з тутэйшых і пасля саромеецца нат прыпамінаць!

–Я не саромеюся.

І зноў ідзе доўгая патэтычная “саната” ў прозе. Астаюся пры сваім. Злоснае пяро скончыла скрыпець. Пад грозным позіркам настаўніка – сядаю, адчуваючы, што хоць бой скончыўся, але цяжкая артылерыя яшчэ загаворыць…” (Валянцін Таўлай.Выбраныя творы. Мн., 1951.С.204-205).

На пачатку вайны, ідучы на ўсход, Валянцін Таўлай вымушаны быў уладкавацца на Навагрдчыне ў Ваўкавічах гмінным сакратаром. Узяўся аднаўляць былыя падпольныя сувязі. Наведаўся неяк на хутар да Вайнілаў. І гэта аднойчы ўратавала. Вясной 1942 года ў Ваўкавічы заскочылі партызаны з атрада з-пад Карэліч. І, падняўшы сярод ночы з пасцелі бурмістра гміны і Валянціна Таўлая, пагналі на ўскраек вёскі. Размова была кароткай. Першым ніцма ля плоту ўпаў бурмістр. Дзякаваць, партызан Вайніла-малодшы пазнаў Валянціна – па тым наведванні на хутар. Уратаваў ад “ганебнай” смерці. Ды і самому Валянціну не раз прыходзілася ратаваць сваіх сяброў…

Паэт з Рудаўкі ніколі не быў фанатычным – ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Ад праяў катэгарычнасці ў радках ён ішоў пакручастымі сцежкамі эвалюцыі ў бок глыбока чалавечага паразумення са светам – акаляючым і глабальным. Сваю справу рабіла роздумнае светапазнанне. Нутром была адчута і ўсё больш спазнавалася кардынальная




**Кніга Міколы Арочкі пра Валянціна Таўлая. 1969 г.**

супярэчлівасць, што вяла да самазнішчальнага сутыкнення непрымірымых сіл. Трагедыя Таўлая пачалася даўно, бадай, з падлеткавага ўзросту. У вершы “Малой сястрычцы” паэт спавядальна прагаварыўся: “Не зразумееш мо мяне – пішу табе яго навыраст”. Гэтак жа і маладым Валянцінам, яго неакрэплай свядомасцю былі прыняты “навырост” многія зманлівыя ідэі сацыяльна-палітычнай скіраванасці. Таўлай прызнаваўся, што на яго юнацтва –

I арлы садзіліся ахвоча,
Часам – каб да лёту заманіць,
Часам – каб выдзёўбваць вочы…

Выходзіла, што якраз тыя “арлы”, што “заманьвалі да лёту”, на справе нярэдка аказваліся звычайнымі груганамі, чорнымі воранамі, варанкамі…

У суседняй з Рудаўкай вёсцы Вялікая Кракотка мясцовая моладзь у 1927 годзе адкрыла беларускую бібліятэку, якую ўсе разам ёй дружна надалі імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якая насіла імя народнага песняра. Вялікі ўдзел у гэтай справе прымаў і Валянцін Таўлай, які з Вільні разам са сваімі землякамі прывозіў для бібліятэкі кнігі.

Вялікакракоцкая бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яе ўжо няма. Толькі застаўся ў вёсцы ад бібліятэкі вялікі двухпавярховы будынак у якім сёння гуляе вецер. На першым паверсе бібліятэкі ў холе некалі стаяў бюст Валянціна Таўлая. Знік і гэты бюст. Пацiху паміраюць Рудаўка, Вялікая Кракотка, Вецявічы і іншыя вёскі-суседкі. Але памяць пра Валянціна Таўлая, кажучы словамі Максіма Танка, няхай гучыць “набатным звонам над краем”.



**Валянцін Таўлай з жонкай Лідай, Мінск, 1946 г.**

# ЯНЫ БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ СУСТРЭЛІСЯ

Летам 2013 года грамадскі актывіст з Гродна Аляксандр Талерчык перадаў мне некалькі пісем беларускага грамадскага і царкоўнага дзеяча на эміграцыі Аляксандра Асіпчыка (1909-1990). “Аляксандр Асіпчык быў жанаты на маёй роднай цётцы Веры Селівончык з вёскі Парэчча Слонімскага раёна. Але вайна і сталінскія рэпрэсіі назаўсёды іх разлучылі. У 1960-1970-я гады я перапісваўся з Аляксандрам Асіпчыкам, які тады жыў у Саут-Рыверы ў ЗША. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, моцна сумаваў і ўспамінаў Бацькаўшчыну. Напішы пра іх лёс”, — параіў Аляксандр Сямёнавіч.

Сам Аляксандр Талерчык таксама родам з вёскі Парэчча. Пра сваю родную вёску ён нават напісаў кнігу, дзе вельмі добра апісаў паўстанне 1830-1831 гадоў пад кіраўніцтвам Міхала Валовіча. Таму не паслухаць свайго земляка я не мог. Тым больш, што шмат гадоў збіраў звесткі пра таго ж Аляксандра Асіпчыка.

**З біяграфіі Аляксандра Асіпчыка**

Аляксандр Асіпчык нарадзіўся 1 красавіка 1909 года ў вёсцы Пляшкі (цяпер вёска Партызанаўка. — С.Ч.) Слонімскага павета ў сялянскай сям’і Восіпа і Паўліны Асіпчыкаў. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям’ю, як і многіх беларускіх вяскоўцаў, рускія казакі гвалтам выганялі ў Расію. Казакі палілі хаты і хлявы, напалохвалі беларусаў, пагражалі ім, нават некаторых забівалі, каб толькі іх з Беларусі адправіць у бежанства на ўсход.



**Аляксандр Асіпчык**

У лістападзе 1915 года сям’ю Асіпчыкаў, як і многіх беларусаў, таксама пагрузілі ў вагон і адправілі ў Астрахань. Аляксандр Асіпчык у сваёй “Праўдзівай даведцы” (“Запісы”, Нью-Ёрк-Мінск, 2011.С.265) прыгадваў: “Сям’я была досыць вялікая: сем асобаў. Таму едучы дарогай, яшчэ разам, бацька мой начаваў пад возам, а пры частых дажджах прастудзіўся на лёгкія і пасля пяці гадоў памёр ад сухотаў у Чэлябінскай губерні. У хуткім часе яшчэ памерлі дзве мае сястры. Я застаўся з маткай і дзвюма сёстрамі…”.

У бежанстве жылося няпроста. Але Аляксандр хадзіў у школу. Скончыў там чатыры класы. Неяк валасны камісар паклікаў усіх бежанцаў і сказаў, што, хто хоча вяртацца на Радзіму, можа збірацца ў дарогу, бо вайна скончылася. Сабраліся дамоў і Асіпчыкі. Праўда,

старэйшая сястра засталася, бо выйшла там замуж. Таму дамоў паехалі Аляксандр, яго малодшая сястра і маці. Паехалі цягнікам праз Чэлябінск — Екацерынбург — Самару—Смаленск — Мінск — Слонім. Пакуль заехалі да Беларусі, усё распрадалі за хлеб. Неяк іх эшалон спыніўся на тры дні ў Пензе. Маці выйшла пашукаць якой-небудзь стравы, а цягнік з бежанцамі перагналі на другую станцыю. Маці, спалохаўшыся, некалькі дзён шукала дзяцей. Яна за гэты час згаладася і замерзла. Калі прыйшла ў вагон, у яе паднялася тэмпература. У Смаленску Паўліны Асіпчык не стала.

У Слонім Аляксандр Асіпчык з сястрой прыехалі ў сакавіку 1922 года. Іх забраў Чырвоны Крыж у прытулак Жыровіцкага манастыра. Адтуль іх перавялі ў Варшаву, а потым — у Чанстахова. Там дзяцей апранулі, кармілі і вучылі польскай мове. Летам Аляксандр Асіпчык трапіў у вёску Дварэц (цяпер гэта Дзятлаўскі раён. — С.Ч.). У Дварцы адкрылі рамесленную школу, дзе Аляксандр вучыўся сталярству. А вясною 1930 года, атрымаўшы дыплом, юнак пайшоў у жыццё самастойна зарабляць на хлеб. Але хутка яго забіраюць у польскае войска ў чацвёрты полк лётчыкаў у Торунь.

Пасля службы Аляксандр Асіпчык пэўны час жыў у Вільні, потым у Лідзе. А ў 1940 годзе прыехаў на родную Слонімшчыну. Працаваў настаўнікам у вёсцы Акунінава. А за заробленыя грошы купіў у Слоніме пляц. І з роднай вёскі Пляшкі перавёз свой дом у горад.

**Вера Селівончык**



**Вера Селівончык**

Яна паходзіла з беларускай сям'і, усе яе продкі займаліся сельскай гаспадаркай. З інвентару жыхароў вёскі Парэчча Слонімскага павета вядома, што Цімафей Селівончык жыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, затым быў Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1796 годзе), потым Варфаламей (нарадзіўся ў 1818 годзе), затым Ігнат, а Селівончык Лявон (нарадзіўся ў 1872 годзе, памёр у 1937 годзе) — гэта быў бацька Веры. У яго было чацвёра дзяцей: тры дзяўчынкі — Анюта (1900 года нараджэння), Алёна (1902 года нараджэння), Вера (1905 года нараджэння) і сын Мікалай (1908 года нараджэння). Мелі 4 гектары зямлі. Лявон у 1905 годзе быў мабілізаваны ў расійскую армію і накіраваны на японскую вайну, але з якой хутка вярнуўся здаровым дамоў.

Першая бяда напаткала сям'ю ў 1915 годзе, калі падчас Першай сусветнай вайны расійскія войскі пацярпелі паразу на мазурскіх балотах і пад пагрозай акружэння вымушаны былі пакінуць Варшаву, Беласток, Вільню, Гродна, Слонім, Брэст, Пінск і іншыя гарады. Жыхарам было загадана пакінуць наступаючым немцам бязлюдны ды спустошаны край, праваслаўных жыхароў выгнаць у Расію, а вёскі спаліць…

Спачатку сям'ю Селівончыкаў размясцілі у Разанскай губерні, а потым перапраравілі яе ў Казанскую, дзе яны ў татарскай вёсцы прабылі ўсю вайну. Грамадзянская вайна ды засуха спарадзілі там голад і хваробы. Людзей валіла халера, воспа, чума і сыпны тыф. Выміралі цэлымі сем'ямі. Надзею на выжыванне дала ў 1921 годзе Рыжская дамова, згодна якой было дазволена беларусам вярнуцца дамоў. Выехалі на радзіму позняй восенню і Селівончыкі, ехалі зімою ў халодных таварных вагонах, доўга затрымліваліся на розных станцыях, вымянялі ўвесь нажыты скарб на ежу, дзе ў дарозе з голаду і хваробы памерла маці.

Горкаю была сустрэча з Парэччам праз сем гадоў блукання па Расіі. Вёска Парэчча мясцамі выгарала. Тыя будынкі, якія ўцалелі, засталіся гнісці без стрэхаў, падворкі зараслі крапівою, палі пакрыліся дзірваном і кустамі. Але вёска паступова запаўнялася парадзелымі сем'ямі. Некаторыя дамы не дачакаліся сваіх гаспадароў. Прыехаўшы дамоў з голымі рукамі, першыя гады сяляне жылі ў страшэннай галечы. Каб не памерці з голаду, Вера Селівончык нанялася гаспадыняй у дом кіраўніка аднаго са слонімскіх банкаў.

Спрытная, працавітая, вельмі сумленная вясковая дзяўчынка спадабалася гаспадарам. Калі праз некаторы час гэтага кіраўніка перавялі на працу ў Варшаву, ён забраў з сабою і служанку Веру. Пазней у Варшаве ён дапамог ёй паступіць у вячэрнюю школу, дзе Вера вывучылася на модную краўчыху. Яна шчыра развіталася з гаспадарамі, зняла памяшканне, атрымала патэнт і адкрыла свой “жаночы салон”. Там яна трымала адну вучаніцу, мела сталых кліентаў і неблагі заработак. Некалькі разоў Вера прыязджала ў Парэчча. Калі моцна захварэў брат Мікалай, яна ўладкавала яго ў дарагую бальніцу, дзе яму павінны былі зрабіць складаную аперацыю. Аперацыя не ўдалася і Мікалай застаўся калекаю на ўсё жыццё: адна нага бяздзейнічала, таму ён мог хадзіць толькі на мыліцах.

Брат Мікалай меў добры слых. А каб неяк згладзіць яго нялёгкае становішча, Вера купіла яму скрыпку. Хутка ён стаў запатрабаваным на вёсцы музыкам. На жаль, на вёсцы хутка знайшоўся злодзей, які ўкраў гэтую скрыпку. Тым не менш, Вера ўсё жыццё апекавала свайго роднага брата.

Наладжанае жыццё Веры Селівончык у Варшаве парушыла нямецка-савецкая вайна з Польшчаю ў верасні 1939 года. Калі Варшаву занялі немцы, Вера вырашыла яе пакінуць і вярнуцца ў Парэчча. Наняла фурманку, пагрузіла на яе сваю швейную машыну, мадэльныя часопісы, астатні скарб, і рушыла ў дарогу. Некалькі разоў мяняла фурманкі, але ўсё ж дабралася да мяжы, пераехала яе і прыехала ў Парэчча, дзе ўжо былі бальшавікі. Пасялілася ў бацькавай хаце, дзе жыла Анюта з Мікалаем. Зарабляла тым, што шыла вясковым дзяўчатам адзенне. З'явілася шмат заказаў. У старой бацькоўскай цёмнай хаце з малымі акенцамі стала цяжка працаваць. І тады Вера перабралася да сястры ў новую светлую хату з вялікімі вокнамі, якую тры гады назад пабудавалі.

Акупацыйная Заходняя Беларусь тым часам паступова саветызавалася і ачышчалася ад “ненадзейных” элементаў. З

Баранавіцкай вобласці было дэпартавана 16860 чалавек. У Парэччы да такіх ненадзейных элементаў былі залічаны дзве асобы: Вера Селівончык і Кандрат Талерчык, чалавек, які пры Польшчы працаваў прыёмшчыкам каменняў на пабудове брукаваных дарог.

Ноччу 27 кастрычніка прыехаў "чорны варанок" і адвез іх у баранавіцкую турму. За незаконны пераход нямецка-савецкай мяжы і антысавецкую агітацыю, Вера Селівончык была прыгаворана "особым совещанием" ад 28 мая 1941 года да 5 гадоў зняволення ў паўночных папраўча-працоўных калоніях. Але адпраўка па этапу сарвалася, бо 21 чэрвеня 1941 года пачалася вайна паміж Гітлерам і Сталіным. Праз два дні немцы былі ў Слоніме. І Вера хутка вярнулася ў Парэчча і пачала зноў працаваць краўчыхаю.

**Пад акупацыяй**

У верасні 1941 года нямецкімі ўладамі ў Слоніме была створана цывільная адміністрацыя. Для падтрымання парадку былі арганізаваны гарадская і павятовая ўправы, якія мелі ў сваім падпарадкаванні мясцовую дапаможную паліцыю. Усё грамадскае і культурніцкае жыццё было аддадзена ў рукі гэтых упраў, а палітычная дзейнасць забаранялася. Паўсюду адкрываліся школы. Быў дадзены загад, каб усе дзеці ва ўзросце ад 7 да 14 год вучыліся ў школах. Мовай навучання была беларуская. У Слоніме дзейнічала беларуская настаўніцкая семінарыя, прагімназія і две школы. Ужо ў 1942 годзе ў Слонімскай акрузе было адкрыта 217 беларускіх школ, працавала 495 настаўнікаў, вучылася 25380 вучняў.

Аляксандру Асіпчыку было даручана ў верасні 1942 года адкрыць у Слоніме рамесную школу, дзе вучылі кравецкай справе дзяўчат і хлопцаў. Апрача таго, хлопцы маглі вучыцца на кавалёў, слесараў, шаўцоў абутку і кіроўцаў аўтамабілямі. Сам Аляксандр Асіпчык выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі.

У якасці інструктара па кравецкай справе была запрошана ў рамесную школу і Вера Селівончык. Там яны пазнаёміліся і пакахалі адзін аднаго. Вясною 1942 года Аляксандр Асіпчык ажаніўся на Веры Селівончык.

У Слоніме Аляксандр Асіпчык быў актыўным дзячам беларускага культурна-асветніцкага жыцця. Апрача працы ў рамеснай школе, ён быў дырэктар бібліятэкі і Народнага дома, дзе праходзілі ўсе важнейшыя мерапрыемствы горада і ставіліся беларускія спектаклі. Ён вёў заняткі па гісторыі і геаграфіі, арганізоўваў выставы, сустрэчы. Ва ўсім яму дапамагала Вера. Вязень сталінскіх лагераў Надзея Дземідовіч у адным з пісем да аўтара гэтых радкоў прыгадвае: "Алесь Асіпчык гадаваўся ў дзіцячым доме, умеў прыгожа вышываць, вязаў карункі ды рабіў розныя рэчы з саломкі і дрэва. Адным словам, быў сапраўдным майстрам на ўсе рукі, а тады, як і цяпер, гэта вельмі цанілася. І Асіпчык перадаваў свае веды беларускай моладзі, якая трымалася любых навучальных устаноў, каб толькі ў Нямеччыну не забралі. Алесь Асіпчык быў жанаты, ягоная

жонка Вера ў той жа школе выкладала кравецкую справу (вучыла шыць вопратку)”.

Аляксандр Асіпчык часта наладжваў у Слоніме розныя выставы народнага мастацтва слонімскіх вёсак. Вялікая выстава вышыванак, напрыклад, была адкрыта ў пачатку красавіка 1944 года, дзе найбольш яркімі і арыгінальнымі былі вышываныя кашулі Аляксандра Асіпчыка і Веры Селівончык. Нават немцы іх куплялі. Пазней на эміграцыі Аляксандр Асіпчык напіша пра акупацыю роднага горада ўспаміны “Мая Слонімшчына” і пад псеўданімам А.Слонімскі апублікуе ў дадатку “Думкі й погляды” часопіса “Беларускі Сьвет”(ЗША) у 1986 годзе.

З Аляксандрам Асіпчыкам быў асабіста знаёмы і Аляксандр Талерчык. А пазнаёміўся ён з ім восенню 1943 года ў Слоніме. “Я ў тым годзе закончыў тры класы Парэцкай беларускай школы. На Слонімшчыне пачалі дзейнічаць розныя банды, якія спалілі народны дом і школу ў Парэччы. Мае бацькі аддалі тады мяне вучыцца ў Слонімскую беларускую школу, якая знаходзілася на Студэнцкай вуліцы. Калі было цёпла і без дажджу, я хадзіў у школу з дому, а зімою жыў у цёткі Веры. Там адбылося маё больш глыбокае знаёмства з гэтай сям’ёй. Дзяцей у іх не было. Яны ўжо атрымалі новую кватэру, якая знаходзілася на правым баку Паркавай вуліцы (цяпер Пушкінская вуліца). Гэта быў двухкватэрны дом, у якім палавіну займаў Асіпчык, а палавіну — іншая сям’я. Уваход быў з надворку. Каля дома знаходзіўся добры хлеў, дзе гаспадары трымалі свіней і курэй. Меўся неблагі агарод...”, — успамінае Аляксандр Талерчык.



**Аляксандр Асіпчык і Саша Талерчык на этнаграфічнай выставе ў Слоніме, 1943 г.**

**Вайна і арышты**

Слонім быў заняты савецкімі войскамі 10 ліпеня 1944 года, горад страшна згарэў. Пажарам быў знішчаны дом Асіпчыкаў і хлеў з парасятамі. Тады Вера перабралася жыць у Парэчча, дзе даглядала брата-інваліда. А Аляксандр Асіпчык запрог каня і паехаў убок Польшчы. Па дарозе яго арыштавалі немцы. Назад вярнуцца ён змог. А Вера жыла заробкамі ад пашыву адзення. Але ўжо 27 верасня 1944 года да яе прыехаў карны “чорны воран”, жанчыну арыштавалі і адвезлі ў баранавіцкую турму. Якое было здзіўленне Веры Селівончык, калі следавацелем па яе справе быў прызначаны той самы Іваноў, які дапытваў яе ў 1940 годзе. Вясковай жанчыне было пастаўлена ў віну, што яна не адбыла ранейшае пяцігадовае пакаранне, якое было прызначана ёй у 1940 годзе, а таксама дабаўлены новы тэрмін. Вера не падпісала ніякіх пратаколаў допытаў, але

яе засудзілі на 10 гадоў з адбыццём пакарання на Калыме. “Балюча да слёз было слухаць успаміны цёткі Веры пра тыя жахлівыя ўмовы, у якіх ёй прыйшлося прайсці на катарзе. Спачатку яе адправілі на лесапавал будаваць нейкае паселішча для шахцёраў. Затым яна працавала на шахце, дзе ўручную кайлом дзяўбла касцярыт (свінцовая ці алавяная руда). Апошнія некалькі гадоў працавала па вырошчванні агародніны ва ўмовах кароткага палярнага лета. Дазвалялася пісаць два пісьмы і атрымліваць адну пасылку ў год. Заўсёды мы ёй пасылалі сала і часнык. У цяжкіх лагерных умовах выжывала, дзякуючы рацыянальнаму складу розума, працавітасці і кемлівасці. На лесапавалах збірала ягады, хвою, лісце лекавых раслінаў і гэтым ратавалася ад цынгі. Там вельмі неабходным было заўсёды мець з сабою некалькі пар пажадана шарсцяных, альбо з любых нітак шкарпеткаў. Мокрыя ногі вялі да абмаражэння і смерці. Цётка ракручвала на ніткі любую тканіну, якая пападала на вочы, і змайстраваным адметным кручком вязала гэтыя шкарпеткі ці панчохі. Карысталася сама і давала катаржанам, якія дзяліліся з ёю харчамі. На цяжкай шахцёркай працы выкройвала дзясяткі хвілін, каб паспаць у абедзенны перапынак: яна за некалькі хвілін праглынала абед, а затым ссоўвалася пад стол і там засыпала”, — расказаў пра сваю цётку Аляксандр Талерчык.

Пасля адбыцця на катарзе 12 гадоў, Вера Селівончык 26 лютага 1956 года была рэабілітавана Вярхоўным судом СССР. Ёй залічылі гады ссылкі ў працоўны стаж на Поўначы. Але патрэбна было да льготнай пенсіі адпрацаваць там яшчэ тры гады. І Вера там засталася. А калі атрымала пенсію, яна вярнулася на Бацькаўшчыну. Жыць не было дзе, таму жанчына прыехала ў Парэчча ў старую бацькоўскую хату. Яна паранейшаму заставалася энергічнай, мужнай і працавітай жанчынай. А праз пэўны час Вера Селівончык ўстанавіла кантакты з Аляксандрам Асіпчыкам, які жыў у Амерыцы, і пачала з ім ліставацца.

### На эміграцыі

Пра жыццё на эміграцыі Аляксандр Асіпчык распавядаць і апісваць не вельмі любіў, хаця пражыў там 46 гадоў.

У Германіі яму ўдалося вырвацца з палону і ўцячы. Там ён далучыўся да беларусаў. Шмат працаваў фізічна, матэрыяльна падтрымліваў беларускіх скаўтаў у горадзе Рэгенсбург.

5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся Першы з’езд праваслаўных беларусаў з амерыканскай, англійскай і французскай зонаў Германіі. Яго арганізавала ініцыятыўная група беларускага царкоўнага актыву, куды ўвайшлі М.Лапіцкі, Ю.Віцьбіч, М.Ігнатовіч, Хв.Шыбут, І.Касяк, М.Сяднёў і Аляксандр Асіпчык. Напачатку апошні з іх шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад Рускай замежнай праваслаўнай царквы ў 1946 годзе, стаў іх ворагам.

У 1950 годзе спадар Асіпчык выехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта ў Канадзе, затым жыў і працаваў у Чыкага, Кліўлендзе, выдаваў на чужыне часопіс “Сіла веры (1948-1965). Сам шмат друкаваўся пад

псеўданімамі Асіповіч-Асіпчык, Зьніч, Слонімскі А., пад крыптанімам А-віч у эміграцыйных “Беларускім праваслаўным календары-1968”, газетах “Бацькаўшчына”, “Беларус” і іншых выданнях. Зора Кіпель у сваёй кнізе ўспамінаў “Дні аднаго жыцця” (Мн., 2010. С.617) прыгадвае: “ Беларускі актывіст Аляксандр Асіпчык наш добры знаёмы з Нямеччыны з 1946-1948 гадоў. Блізка супрацоўнічаў з кліўлендскім культурным цэнтрам “Полацк”, даў на яго добрую суму грошай”. А вось дзённікавыя запісы з гэтай жа самай кнігі: “Пабылі там крыху і паехалі да Асіпчыка. Асіпчык даў на Полацк 800 даляраў і на Інстытут 200”…




**Гістарычны нарыс Аляксандра Асіпчыка пра Жыровічы, 1947 г.**

Апошнія гады жыцця Аляксандр Асіпчык правёў у г.Джэксан у штаце Нью-Ёрк (ЗША), дзе памёр 14 сакавіка 1990 года. Яго пахавалі там жа на мясцовых могілках “Фармы РООВА”.

**Перапіска**

З лістоў Аляксандра Асіпчыка Вера Селівончык даведалася, як ён жыве далёка ад Бацькаўшчыны. Яна з радасцю ўспрыняла тое, што яе любы чалавек далёка за акіянам заснаваў Беларускае Жыровіцкае праваслаўнае брацтва. А Вера адначасова ў Беларусі ахвяруе на той час даволі вялікія грошы на Жыровіцкі манастыр. Па просьбе Асіпчыка яна наведвае на Беларусі родных і знаёмых людзей, якія знаходзяцца разам з ім ў Амерыцы на эміграцыі. Жанчына адведала сясцёр паэта Сяргея Новіка-Пяюна ў Слоніме, некалькі разоў ездзіла ў Мінск да паэта, вязня сталінскіх лагераў.

Па просьбе Асіпчыка яна наведвае родных і знаёмых людзей тых, якія знаходзяцца разам з ім ў Амерыцы на эміграцыі. Жанчына гасціла ў сясцёр паэта Сяргея Новіка-Пяюна ў Слоніме, некалькі разоў ездзіла ў Мінск да яго. Асіпчык вельмі цікавіўся гістарычнымі помнікамі, таму Вера Селівончык і сям’я Талерчыкаў выпісвалі часопіс “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі” і перасылалі яму. Па яго просьбе дасылаліся ў Амерыку і Канаду кнігі па беларускай архітэктуры Уладзіміра Чантурыя, а таксама кнігі Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна. Разам з гэтым Вера Селівончык наведвала сваіх сяброўак па катарзе. Яна хадайнічала перад слонімскімі ўладамі, каб вярнулі ёй канфіскаваную маёмасць і перадалі дом, які пабудаваў яе муж Аляксандр Асіпчык ў Слоніме на вуліцы 17 Верасня. Але яе высілкі былі марныя, дом ёй не вярнулі, а толькі далі аднапакаёвую кватэру ў Слоніме па Ружанскай вуліцы.

Вера Селівончык была мужнай і фізічна здаровай жанчынай. Яна нікога не баялася і амаль ніколі не хварэла. А калі здаралася прастуда ці якія болі ў касцях, яна мела кніжку нямецкага лекара Кнейпа “Водалячэнне” і карысталася яго парадамі і травамі. Напрыклад, грып ці прастуду жанчына лячыла наступным чынам: намочвала льняную простыню ў халодную ваду, яе голую (у трусах) заварочвалі ў гэтую простыню, давалі адвар ліпавых кветак ці ліпавага мёду, затым, каб не намачыць ложак, заварочвалі ў цырату, накрывалі коўдраю і яна ляжала да таго часу, пакуль не спацее. Паважала лячэнне зёлкамі, якія сама збірала. Вяла вельмі актыўнае жыццё, а таксама ўсім людзям дапамагала.

Веры Селівончык не стала ў 1984 годзе. Яе пахавалі ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна на мясцовых могілках.

Летам 2013 года я разам з родным пляменнікам Веры Селівончык Аляксандрам Талерчыкам пабывалі на могілках у Парэччы і адведалі магілу Веры Селівончык. Ужо пахіліўся яе надмагільны помнік, амаль зраўнялася з зямлёй яе магіла. “Якая яна была мужнай жанчынай, беларускай, калі б ты толькі ведаў. На вялікі жаль, ёй і Аляксандру Асіпчыку ў жыцці ніколі больш сустрэцца не ўдалося. А так яны хацелі”, — уздыхнуў Аляксандр Сямёнавіч.

З вясковых могілак мы паехалі ў Слонім і заказалі новы і дарагі помнік Веры Селівончык, які ўстанавілі вясною 2014 года.

Калі развіталіся з Аляксандрам Талерчыкам, ён дастаў з сумкі стосік старых пісем і сказаў: “Гэта некалькі лістоў з Амерыкі ад Аляксандра Асіпчыка, якія зберагліся. Ён пісаў мне ў 1960-1970-х гадах. Няхай будуць у цябе, можа калі спатрэбяцца...”.

**З лістоў Аляксандра Асіпчыка да Аляксандра Талерчыка**

Дарагі Шура! Дзякую табе за пісьмо, якое яшчэ атрымаў па старым адрасе. Цяпер я жыву па іншым і падаю яго усім вам ніжэй. Прашу перадаць адрас новы і Веры...Цешуся, што так прыгожа ты пішаш і разумна разважаеш пра жыццё, людзей. О, каб мы жылі разам... Я б быў бы вам шмат у чым памочнікам, любіў бы вашых дзетак, як любіў некалі цябе, Шура, калі ты быў маленькім і ціхенькім хлопчыкам... Але мая доля іншая — і як бачыш, больш гадоў свайго жыцця я адбываю на чужыне: 7 гадоў ад 1915-1922 г.г. — у Сібіры, а цяпер — у Амерыцы... *Аляксандр А. 31 кастрычніка 1967 года.*

Дарагі і мілы Шура! З прыемнасцю чытаю твае пісьмы, прыглядаюся да кожнай літары і слова. Як мудра і прыгожа ты пішаш па-беларуску!.. Чытаю я тут і польскія, і ўкраінскія кніжкі. Час ад часу ў газетах знаходжу некаторыя звесткі і пра Гродна, чытаю аб тым, як прыязджаў польскі тэатр і беларусы з Беластока. Мне прысылаюць беларускую газету “Голас Радзімы”... Перад гэтым пісьмом я напісаў Веры ў Слонім, бо яна пісала, што хутка будзе там. Пісала яна і аб паховінах Язэпа Стаброўскага (заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея. — С.Ч.). Вельмі хочацца прачытаць штосьць пра Слонім, але пра яго нідзе ніхто не піша... Дзякую

табе за Буквары, за геаграфію і гісторыю Беларусі. Я вельмі цікаўлюся картамі Беларусі. Часта іх разглядаю і ўспамінаю, дзе я быў, а дзе ніколі не быў... *Аляксандр А. 5 сакавіка 1968 года.*

Мілы і дарагі Шура! Толькі што збіраўся падзякаваць табе за кнігі. Перадусім выяўляю сваю радасць, што маю такіх прыяцеляў на Беларусі, праз якіх маю так шмат прыемнасцяў і шчырага задавальнення, што я яшчэ не зусім адзін, а нехта думае пра мяне, як я аб усім тым, што мінула і што далёка ад мяне... Я вельмі ўдзячны і папракаю сёння сябе, што некалі мала меў часу размаўляць з табой, калі ты маленькі прыходзіў да нас, а цяпер ты вельмі аказаўся карысным не толькі для Беларусі і свае сям'і, але і для мяне няшчаснага... Ну, што ж, можа таму, што тады была вайна?.. *Аляксандр А. 25 чэрвеня 1968 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Шчыра дзякую табе за пісьмо і весткі пра сябе... Прашу цябе выслаць мне кнігу У.Чантурыя "Гісторыя архітэктуры Беларусі". Я вельмі хачу яе мець. Цікава, дзе ты, Шура, цяпер жывеш?.. Я ўзяў карту Беларусі і пачаў разглядаць — з якога боку над Нёманам можа быць сасновы лес, каб уявіць тое месца вуліцы Каліноўскага, і ніяк не здагадаюся: ці з поўначы, ці з поўдня Гродна, бо Нёман плыве пасярэдзіне Гродна, ці на захад над р. Ласосна? Напішы мне, Шура, больш дакладна, бо я хачу ведаць...

*Аляксандр А. 30 верасня 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Дзякую табе за пісьмо і весткі з Беларусі... Маю вось такі вершык:

Час зусім нечакана
Знішчыў шчасны мой лёс,
На Радзіме каханай
Я праліў многа слёз.
І на чужыне не іначай
Сумна мне навакол,
Ці яшчэ я убачу
Цябе, мілы мой двор?
Пазірае мне ў вочы
Гора чорнаю хмарай,
Плачу ўдзень і ўночы,
Над разбітаю марай...

*Аляксандр А. 6 кастрычніка 1969 года.*

Дарагі і паважаны Шура! Я яшчэ жывы і здаровы і маю надзею яшчэ жыць колькі гадоў... Не забывай, дарагі Шура, пра мяне, бо я вельмі часта думаю пра вас і сумую, як так доўга не маю ніякай весткі з Беларусі. Вера таксама ездзіць і не піша так доўга. А я думаю: чаму?.. А на свеце ўсё мяняецца і, можа, так змяніцца, што я прыеду да вас...Чытаў я таксама, што нейкія кінамайстры ў ваколіцах Слоніма і Жыровічаў здымаюць мастацкі фільм "Паланэз Агінскага". Вось каб калі гэты фільм пабачыць?!.

*Аляксандр А. 4 верасня 1971 года.*

# ЖЫЎ РОДНАЙ ПЕСНЯЙ



**Антон Валынчык**

**З Мялькaнавіч да Лунінца**

На Беларусі няма ніводнага такога кутка, які б не меў сваіх слаўных сыноў ці дачок, імёны якіх навечна звязаны са сваёй маленькай радзімай. Сярод іх пачэснае месца на Слонімшчыне займае беларускі кампазітар, музыкант, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі Антон Валынчык (1896-1985), які нарадзіўся ў вёсцы Мялькaнавічы. Сама вёска знаходзіцца недалёка ад Слоніма. Упершыню яна ўпамінаецца ў XVI стагоддзі як сяло, цэнтр Мялькaнавіцкага войтаўства, дзяржаўная ўласнасць у Слонімскім старостве Вялікага Княства Літоўскага.

У 1852 годзе ў Мялькaнавічах было адкрыта народнае вучылішча, якое скончыў бацька Антона Міхась Валынчык. У сям'і Валынчыкаў было некалькі сыноў. Адзін з іх у 1920-1930-х гадах займаўся палітыкай. Польскія ўлады яго арыштавалі і трымалі за кратамі. А калі юнак моцна захварэў на сухоты, выпусцілі на волю, дзе праз некалькі месяцаў ён памёр. Аб гэтым казаў на мітынгу ў Мялькaнавічах у верасні 1939 года сам Міхась Валынчык. “Мне было 9 гадоў. Але я памятаю той мітынг і бацьку Антона Валынчыка — высокага, худога. І памятаю таксама ягоныя словы пра сына”, — сказаў неяк пры сустрэчы мне кандыдат філалагічных навук, перакладчык Уладзімір Сакалоўскі, які таксама родам з Мялькaнавіч.

Другі сын Міхася Валынчыка Антон нарадзіўся 23 ліпеня 1896 года ў Мялькaнавічах. У 1910 годзе хлопчык скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. Гэта вучылішча рыхтавала хлопцаў на дзякаў, кіраўнікоў царкоўных хораў і настаўнікаў парафіяльных школ. Спевы і ігра на

не вельмі любілі праваслаўныя свяшчэннікі, бо яго царкоўныя хары заўсёды былі лепшымі, чым сама дзейнасць гэтых свяшчэннікаў.

Антон Валынчык быў моцны харавік акадэмічнага складу. Мы вучыліся ў яго гэтаму прафесійнаму майстэрству. Зніклі кудысь і яго царкоўныя музычныя творы. Калі памёр Валынчык, жонка пераехала да сына на Украіну. Пра дачку я нічога не чуў...”.

Антона Валынчыка не стала 13 лістапада 1985 года. У адным з пісем да аўтара гэтай кнігі заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун (1910-2005) пры жыцці неяк згадаў, што з Антонам Валынчыкам ён шчыра сябраваў, часта сустракаўся, калі той ішоў са спінінгам ці з вудамі на Нёман. “Апошні раз быў у ягонай кватэры разам з гродзенскім кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам. Валынчык тады ўжо цяжка хварэў — ён перанёс інсульт. Яго жонка Вольга Данілаўна выканала нам песню, якую даўней спявалі гімназісты Клецкай беларускай гімназіі кожны дзень перад пачаткам заняткаў і пасля іх: “Вучыся, нябожа, вучэнне — паможа”, здаецца на словы Янкі Купалы... Хаця гэты выдатны дырыжор і кампазітар стараўся прынесці як мага больш карысці роднай Бацькаўшчыне, але наменклатуршчыкі не любілі Антона Міхайлавіча. Так ён без усялякай прычыны быў адхілены ад кіраўніцтва ансамблем песні і танца “Нёман”. Прышывалі яму ярлыкі “неблагонадёжный”, “националист”. Пасля смерці Антона Валынчыка, яго жонка Вольга Данілаўна жыве на старым месцы на вуліцы Ажэшка. Яна і зараз спявае ў царкоўным хоры”, — пісаў Апанас Пятровіч Цыхун.

Застаць Вольгу Данілаўну ў Гродне мне ўжо не ўдалося. Пісаў я некалькі разоў ёй і сыну Антона Валынчыка Леаніду на Украіну, але адказаў так і не атрымаў. Шукаў сляды і дачкі кампазітара ад першага шлюбу Дзіны Валынчык — не знайшоў. Даведаўся толькі, што пасля вайны яна з’ехала ў Вільню.

Да ўсяго сказанага вышэй, хачу дадаць, што на магіле Антона Валынчыка на гарадскіх могілках у раёне ААТ “Гродна-Азот” у Гродне ўстаноўлены яму надмагільны помнік, а на будынку Гродзенскага ўніверсітэта – мемарыяльная шыльда.




**Мемарыяльная шыльда Антону Валынчыку ў Гродне**

# ТЭАТР
# МІХАІЛА ФРЫДМАНА

Тэатральны рэжысёр Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім у лістападзе 1948 года. Яшчэ ў развалінах ляжаў старажытны Слонім пасля Другой сусветнай вайны, але развешаныя ўсюды афішы паведамлялі аб першым спектаклі толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага гуртка. Кіраўніком гуртка тады быў дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921-1985). У Слоніме Аляксандр Бялоў жыў да 1956 года. А пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста Беларусі. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка ў 1951 годзе ён быў узнагароджаны дыпломам на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі "Вяселле з пасагам" па п'есе М.Дзяканава і Швандзі ў спектаклі "Любоў Яравая" па п'есе К.Трэнёва.

У 1948 годзе Аляксандр Бялоў разам з Міхаілам Фрыдманам паставілі ў Слоніме свой першы спектакль "Шляхі-дарогі" па п'есе А.Фёдарава. Менавіта на гэтую прэм'еру клікалі слонімцаў развешаныя ўсюды афішы. Дарэчы, Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім маючы за плячыма вялікі тэатральны вопыт.



**Слонімскі народны тэатр перад паездкай на гастролі.**
**Міхаіл Фрыдман трэці злева, 1952 г.**

Родам ён быў з Варшавы, дзе з'явіўся на свет 29 сакавіка 1894 года. У 1910-1927 гадах вандраваў як акцёр з яўрэйскімі вандроўнымі тэатральнымі трупамі па Украіне і Беларусі, а таксама скончыў маскоўскую тэатральную студыю "Свабоднае мастацтва". Дарэчы, у 1932

годзе група студэнтаў тэатральнага вучылішча пры Маскоўскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры, якія займаліся на курсе народнага артыста СССР С.М.Міхаэлса, заявілі аб сваім жаданні пасля заканчэння вучобы паехаць на Далёкі Ўсход, каб стварыць там малады Яўрэйскі абласны нацыянальны тэатр. У складзе тэатральнай групы рэжысёра Марка Рубінштэйна былі і Міхаіл Фрыдман са сваёй жонкай.

А пасля вайны Міхаіл Фрыдман васемнаццаць гадоў жыў і працаваў у Слоніме. Менавіта Міхаіл Фрыдман узначаліў у тыя першыя пасляваенныя гады тэатральны гурток Слонімскага РДК, а Аляксандр Бялоў быў кіраўніком танцавальнага гуртка. Вопытны рэжысёр Фрыдман сур'ёзна працаваў над першым спектаклем, хаця яму было даволі цяжка. Не хапала дэкарацый, касцюмаў. Выручала толькі адно: для ўсіх патрэбны былі толькі вайсковыя мундзіры. А іх дастаткова пакінула вайна.

Тады ў 1948 годзе драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру самадзейных артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур'ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. Колькі пакут творчасці, памылак і расчараванняў пераносіў кожны артыст, пакуль іх гульня рабілася сапраўднай, пакуль кожны самастойна выходзіў на сцежку ўпэўненасці. Але рос талент артыстаў. Ён мацнеў на рэпетыцыях, раскрываўся ва ўсёй сваёй сіле на сцэне і гастролях.

У Слоніме ў драматычным гурку, з першых яго крокаў, была абвешчана бязлітасная барацьба з дылетанцкімі захапленнямі, абыякавымі адносінамі да заняткаў у гуртку. У пакоі, дзе праходзілі рэпетыцыі гуртка, знаходзіўся вялікі партрэт К.С.Станіслаўскага, а ў нізе яго словы: “Любі мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве”.

За час знаходжання ў Слоніме Міхал Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі 27 спектакляў, сярод іх былі і лепшыя – “Выгнанне блудніцы” І.Шамякіна, “Вяселле з пасагам” М.Дзяканава, “Любоў Яравая” К.Транёва, “У добры час” В.Розава, “Кухарка замужам” А.Сафронава, “Жаніцьба Бялугіна” А.Астроўскага, “Апошнія” М.Горкага, “Нячыстая сіла” Г.Стафанскага, “У бэзавым садзе” Ц.Саладара і многія іншыя. А ў 1959 годзе драматычны гурток Слонімскага РДК атрымаў званне народнага тэатра.

У пачатку лютага 1964 года слонімскія артысты прывезлі ў Мінск спектакль “Апошнія” па п'есе Максіма Горкага. Прэм'ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны – Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя. Зала тэатра была перапоўнена. Перад пачаткам спектакля перад гледачамі выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф'і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

Спектакль сталічным гледачам спадабаўся. Пра гэту падзею напісалі амаль усе беларускія газеты. Пастаноўка таксама была паказана

Мінскай студыяй тэлебачання. Тэатральны крытык Арсень Лабовіч у газеце “Знамя юности” 27 лютага 1964 года пісаў: “Дасягненне адзінства мастацкага стылю з’яўляецца пацвярджэннем высокага рэжысёрскага майстэрства пастаноўшчыка, кіраўніка Слонімскага народнага тэатра Міхаіла Фрыдмана. Усе выканаўцы аб’ядноўваюць свае намаганні вакол галоўнай ідэі спектакля – раскрыць перад гледачамі бесперспектыўнасць грамадскіх адносінаў, дзе чалавек чалавеку воўк. У гэтым – сучаснасць і актуальнасць пастаноўкі. Выканаўцы разумеюць, адчуваюць свае задачы, адчуваюць эпоху. Гэта добра. Разам з тым гэтыя індывідуальныя мэты не заўсёды зліваюцца ў агульную звышзадачу спектакля, у асобных сцэнах не хапае пачуцця ансамбля. Праўда, выключна вялікую дапамогу ў гэтым сэнсе аказала калектыву Вольга Уладзіміраўна Галіна. Сваёй выдатнай гульнёй яна не толькі ўзбагаціла калектыў сцэнічным вопытам, – яе выкананне нібы сцэментавала творчыя намаганні астальных выканаўцаў вакол вобраза Соф’і”.

За спектакль “Апошнія” калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама артыстка Вольга Галіна, атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.

Добра быў падрыхтаваны і меў поспех спектакль у пастаноўцы Міхала Фрыдмана “Глыбокая плынь” па п’есе Івана Шамякіна. П’еса расказвала пра гераічную барацьбу беларускіх людзей у гады Другой сусветнай вайны. Спектакль у канцы 1950-х – пачатку 1960-х гадоў выклікаў гарачыя пачуцці гледачоў. Многія ўдзельнікі вайны, калі глядзелі гэтую сцэнічную пастаноўку, плакалі, міжволі перакідваліся думкамі ў гады вайны і зноў перажывалі за сцэнічных герояў, як за сваіх сяброў.



**Слонімскі народны тэатр.**
**Міхаіл Фрыдман (у другім радзе трэці справа) са сваімі артыстамі, 1960-я гады**

У 1961 годзе Міхаіл Фрыдман паставіў спектакль “Кухарка” па п’есе А.Сафронава. Працягам гэтай камедыі праз год стаў спектакль “Кухарка замужам”. Як з добрымі знаёмымі гледачы сустрэліся з кубанскімі калгаснікамі Паўлінай і Сцяпанам Казанцамі, Галінай Чайкай, Андрэем Пчолкам і іх сябрамі. Хаця ў новым спектаклі былі тыя ж лірычныя канфлікты, аднак многае змянілася. Цяпер ужо Паўліна і Галя адчувалі сваю жаночую перавагу над мужамі. Узнікалі новыя непаразуменні. Але па-ранейшаму ў зале не сціхаў смех. У спектаклі было шмат гумару, рэжысёрскай фантазіі, імправізацыі акцёраў. Пра ўсе спектаклі Слонімскага народнага тэатра тады пісалі многія газеты і часопісы. Кожная прэм’ера ў пастаноўцы Міхаіла Фрыдмана асвятлялася ў друку.

У сярэдзіне 1960-х гадоў Міхаіл Фрыдман развітаўся са слонімскім тэатральным калектывам. А яго ў 1968 годзе замяніў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч.



**Сцэна са спектакля Вяртанне. Рэжысёр Міхаіл Фрыдман.**

# У ЯГО АПТЭЦЫ
# ЗАЎСЁДЫ ВІСЕЛА МАПА БЕЛАРУСІ



Фармацэўт-гамеапат, актыўны дзеяч беларускай эміграцыі ў Велікабрытаніі і Бельгіі Лаўрын Клыбік (1928-2005) – мой зямляк. Ён нарадзіўся 23 кастрычніка 1928 года ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Сябраваў з маім бацькам. Але Другая сусветная вайна іх сяброўства спыніла.

Лаўрын Клыбік нарадзіўся ў вясковай багатай сям'і. Бацька да арганізацыі калгасаў меў 25 гектараў уласнай зямлі. Але пасля вайны, калі на Слонімшчыну прыйшла савецкая ўлада і пачалі сілаю ўсіх заганяць у калгас, сэрца маладога гаспадара не вытрымала і ён у 1953 годзе памёр. Без бацькі засталіся 6 дзяцей. Лаўрын у гэты час быў ужо за мяжой.

Калі немцы адступалі, яны вывозілі са Слоніма, што маглі. Забралі таксама вучняў са школы, у тым ліку і Лаўрына. У чэрвені 1944 года іх дэпартавалі ў Нямеччыну, пасля — у Францыю капаць акопы, будаваць лінію абароны супраць амерыканцаў. Але доўга не прыйшлося там працаваць, бо фронт наблізіўся вельмі хутка. Амерыканцы вызвалілі падлеткаў і ўсіх накіравалі ў спецыяльны лагер. Людзей пачалі сартаваць па краінах іх паходжання. Лаўрына палічылі палякам, бо паходзіў ён з Заходняй Беларусі. Польскае войска на Захадзе шукала тады маладых і здаровых людзей, каб пакрыць свае страты ў Італіі. Польскага беларуса залічылі ў войска генерала Андэрса. Адначасова з вайсковай падрыхтоўкай, юнак праходзіў курсы вайсковых радыётэхнікаў. Атрымаўшы дыплом, ён трапіў у танкавую дывізію.

Ваенная завіруха загнала юнака са Слонімшчыны праз Польшчу, Нямеччыну, Італію ажно ў Англію. Каб не губляць марна час і падвучыць англійскую мову, Лаўрын запісаўся на курсы з праграмай сярэдняй

школы. Пасля дэмабілізацыі ён стаў працаваць у аптэцы памочнікам фармацэўта. Працуючы ў аптэцы беларус заўсёды ўспамінаў Бацькаўшчыну, родную вёску і словы маці: “Вучэцеся, дзеткі, вучэцеся, бо навука – гэта скарб, які ніхто ніколі не зябярэ”. І Лаўрын вырашыў вучыцца, атрыліваць адукацыю. Ён пачаў хадзіць на вячэрнія курсы ў Лонданскі “Фінчлі-каледж”. І ў 1952 годзе атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі і выехаў у Бельгію.



**Лаўрын Клыбік у сваёй аптэцы**

У Бельгіі Лаўрын Клыбік паступіў на фармацэўтычны факультэт Лювэнскага ўніверсітэта, пасля заканчэння якога атрымаў дыплом аптэкара. А потым здаў яшчэ дадатковыя экзамены і стаў працаваць кіраўніком аптэкі ў Бруселі, потым у Мехалене, а ў 1966 годзе адкрыў уласную аптэку. Добры кантакт з кліентамі, карысныя парады аптэкара пачалі прыцягваць людзей. Ён нават сам стварыў некалькі прэпаратаў, якія да сённяшніх дзёен карыстаюцца попытам не толькі ў Бельгіі, але і ў іншых краінах.

У 1977 годзе беларус са Слонімшчыны зацікавіўся гамеапатыяй (гамеапатыя – слова грэчаскага паходжання, складаецца з двух слоў: homoios – падобны і pathos – хвароба, што адзначае “лячыць падобным”), паступіў на вячэрнія курсы гамеапатычнай школы ў Бруселі, а праз чатыры гады адкрыў сваю ўласную лабараторыю.

Пасля абароны навуковай працы “Кава і яе ўздзеянне на чалавечы арганізм” Лаўрэн Клыбік быў прыняты ў Асацыяцыю гамеапатаў Бельгіі. Яго праца выклікала вялікую зацікаўленасць у многіх краінах Еўропы. Яна была апублікавана ў медыцынскіх выданнях Францыі, Бельгіі і Беларусі. У 1994 годзе Лаўрын Клыбік выдае працу, прысвечаную прапалісу. А ў 1995 годзе выдаецца яго даследаванне “Уплыў радыеактыўнасці на жывыя арганізмы”. Яно выйшла на французскай мове ў Бруселі.

З 1994 года Лаўрын Клыбік часта наведваў сваю Бацькаўшчыну. У 1996 годзе ў Мінску ў Скарынаўскім цэнтры ён выступіў з дакладам “Гісторыя гамеапатыі”. У сваім выступленні наш суайчыннік распавёў не толькі пра гамеапатыю ў цэлым, але і пра тое, ці можна гамеапатычнай медыцынай лячыць радыяцыю. Спадар Клыбік распавёў пра тое, як ён у 1994 годзе ездзіў у забруджаны радыёнуклідамі раён Валожыншчыны. Яго і калег па даследаваннях шчыра сустракалі ў Валожынскай бальніцы і стварылі ўсе ўмовы для працы. Там Лаўрын Клыбік апраменьваў сваёй лактозай ваду і алкаголь. А потым у Бруселі ў сваёй лабараторыі прыгатаваў гамеапатычнае лякарства. Назваў яго RAČK (радыеактыўная чарнобыльская катастрофа). Падчас выступлення Лаўрын Клыбік прывёў

шэраг прыкладаў, адзін з іх, дзе RAČK вылечыў сабака. Потым гэтымі лекамі ён пачынаў лячыць людзей, якія былі апраменены чарнобыльскай радыяцыяй. Спадар Клыбік тады казаў: “RAČK дае надзею, хоць пакуль і невялікую, што выбраны метад гамеапатычнага лячэння ракавых захворванняў можа быць карысным. Гэты метад яшчэ ў зародачным стане. Яго трэба развіваць супольнымі сіламі шматлікіх лекараў, працавітых і сумленных, напоўненых ідэалам знайсці дапамогу фізічную і маральную для людзей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі. Адзін чалавек у гэтай галіне фізічна не ў стане выканаць заданне...”. Спадар Клыбік заклікаў супольна змагацца супраць хваробаў ад Чарнобыльскай катастрофы. Але тады да прапаноў беларускага суайчынніка ніхто не прыслухаўся і ніхто не падтрымаў.

А тады, сапраўды, Лаўрын Клыбік пачынаў наладжваць супрацоўніцтва з беларускімі медыкамі для апрабавання гамеапатычных сродкаў супраць хвароб, выкліканых радыяцыяй на тэрыторыі Беларусі. “Хоць усё маё свядомае жыццё праходзіць далёка ад Беларусі, -- казаў Лаўрын Клыбік, -- я заўсёды думаю, як дапамагчы людзям на Бацькаўшчыне”. І гэта так. І дапамагаў усім, чым мог. А для музея “Беларусы ў свеце”, які тады існаваў у Мінску пры Цэнтры імя Францыска Скарыны, ён перадаў некалькі каштоўных рэліквій. Гэта вышыты беларускім арнаментам касцюм, у якім Лаўрын Клыбік выступаў у час вучобы ў Лювенскім універсітэце, дакументы, фотаздымкі 1940-1950-х гадоў, звязаныя з жыццём і дзейнасцю беларускай эміграцыі.

У 1997 годзе Лаўрын Клыбік прымаў удзел у Другім з’ездзе беларусаў свету. Ён наведаў родную Слонімшчыну, вёску Хадзявічы, дзе нарадзіўся. Сустрэчы з ім былі цікавыя і шчырыя, бо сам слонімец быў унікальным чалавекам. Ён яшчэ валодаў беларускай, рускай, нямецкай, англійскай, польскай, яўрэйскай мовамі. А каб вывучыць яшчэ і кітайскую, адкрыў рэстаран, запрасіўшы повара з Кітая. І вось што цікава, на reception у яго рэстаране, а таксама ў аптэцы, заўсёды вісела мапа Беларусі, дзе была адзначана яго родная вёска. Ён ганарыўся Беларуссю і тым, што беларус.




**Навуковыя працы Лаўрына Клыбіка**

# МОЙ ЗЯМЛЯК АЛЕГ ЛОЙКА



**Алег Лойка, 1953 г.**

Мне здаецца, што мой зямляк доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук пісьменнік Алег Лойка (1931-2008) меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ў Слоніме на беразе ракі Шчара. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў тысячы радкоў:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!..

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку Белдзяржуніверсітэта ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся да яго ў літаратурнае аб’яднанне “Узлёт”. Не часта адбываліся пасяджанні літаб’яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна. І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастай літаб’яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: “Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль”. Іншыя называлі мяне вядомым лойкіным радком “Юнак

быў з-пад Слоніма родам…”. Тым не менш, ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб’яднанне актыўна працавала, а ў 1985 годзе “узлётаўцы” выдалі свой чарговы паэтычны зборнік “Вусны”.

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: “На наступным тыдні будзе пасяджанне “Узлёту”, то напішы аб’яўку і вывесі на другім паверсе факультэта(мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6). І я “выканаў” просьбу прафесара. Напісаў: “У такі дзень і час адбудзецца пасяджэння літаратурнага аб’яднання ”Узлёт”. Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску”.

Вечарам да мяне ў інтэрнацкі пакой прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую ўсхваляваны голас Алега Антонавіча: “Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб’яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?”. “Галавой!”, — адказваю. “Не думаю, што галавой, — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даведаўся, што Алега Антонавіча па змесце аб’явы выклікалі ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок “запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску” “пах” нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты студэнцкі факт. Алег Антонавіч сказаў: “Ей Богу, Сяргей, не памятаю…”.



**Маленькі Алег Лойка з маці, тры месяцы. Жнівень, 1931 г.**

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі “ЖЗЛ” кнігу “Янка Купала”. Гэта была першая кніга напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі, у актавай зале філфака БДУ адбылася

яе прэзентацыя. Зала была запоўнена студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Антонавіча з творчай удачай. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: а чаму ваш сябра і калега так крытычна аднёсся да выдання кнігі? Алег Лойка адказаў: “Сцяпан Хусейнавіч Александровіч хацеў у Маскве выдаць аднячасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў”. Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што “кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая”.

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядзвіга Юліянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва “Молодая гвардия” і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экземпляраў. Тым не менш, купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме: “Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.”.

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічных факультэта. Неяк я спытаў у яго: а які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу? Алег Антонавіч сказаў: “Сорак тысяч савецкіх рублёў”. О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавясці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх даляраў. “Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам…”, — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але, калі я да яго прызджаў, — ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала першы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам “Нашай Нівы”, да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарту – значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы і нават паэтку цалаваў. У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік “Курганная кветка”, адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася рознае. Жонка Якуба Коласа – Марыя Дзьмітрыеўна была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, адданай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас яе кахаў. Але падчас вайны, калі песняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна

закахаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў "Ташкенцкая торба". Гэты цыкл не апублікаваны да сённяшніх дзён. Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк... Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў...

Апошнія гады жыцця мой зямляк правёў у родным Слоніме. Гэты горад ён называў сваім першым святлом, прасторам і любоўю. Ён так і пісаў: "Ды я не ведаю. Рос я ў горадзе ці ў вёсцы, бо з кожнай вуліцы і вулічкі гэтага лёгшага абапал Шчары гарадка відаць на ўзгоркавым небасхіле сінія лясы, відаць разлогія палі: вясною — у руні, летам — у спелых нівах, восенню — у срабрыстым павуцінні...".

Алег Лойка любіў родны Слонім, любіў людзей, якія жывуць і жылі ў ім, ці, як ён называў у "гэтай Шчаравай даліне". Ён заўсёды ўсёй душой быў з родным горадам. Любы Слонім — ён шчыра насіў у сэрцы. А Першамай (нарадзіўся 1 мая) у Слоніме для Алега Антонавіча быў найвялікшым днём, які збіраў усіх яго сяброў і сваякоў за адным сталом. Збіраў у бацькоўскай хаце на Зялёнай вуліцы, ці ў цешчынай хаце на Віленскай вуліцы.

Пасля Мінска ён вярнуўся ў Слонім назаўсёды. Жыў у цешчынай хаце, спачатку з жонкай Ліліяй, а потым, калі яе не стала, жыў адзін:

"Мілая!.. Мілая!.." —
Дык як я тое скажу
Па-над тваёй магілаю,
Поруч якой не ляжу...



**Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч і Алег Лойка ў Слоніме, 1981 г.**

У Слоніме мне некалькі разоў прыйшлося з ім разам сустракаць Першамай — гэта значыць святкаваць дзень яго нараджэння. Сябра-зямляк Алега Антонавіча — энцыклапедыст і літаратуразнавец з вёскі Вялікая Кракотка Янка Саламевіч, таксама часта бываў у яго слонімскай хаце. А на дзень нараджэння свайго сябра, спадар Янка спяваў народныя песні. А яму дапамагаў Алег Антонавіч. Як яны разам землякі-слонімцы спявалі народныя песні!.. О, гэта трэба было бачыць і чуць! А колькі яны іх ведалі — дзесяткі, сотні… А ці мы сёння зможам за сталом праспяваць хоць адну беларускую народную песню?.. А?.. Праспяваць ад пачатку да канца… А яны спявалі бясконца — адна за адной, якія толькі прыходзілі на памяць. Я і сёння іх бачу разам, чую іх, слухаю іх, яны — перада мной, як жывыя, мае славутыя землякі…

Алег Лойка, бяспрэчна, — асоба вялікая не толькі ў маштабах Беларусі, але і Еўропы. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца, а таксама і ўслаўляць гэтае імя заўсёды. У Слоніме яго імем названа адна з вуліц. А ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адкрыты пакой-музей Алега Лойкі.

Прайшло шмат Першамаеў без Алега Лойкі. Цяпер я разумею, чаму ён свае апошнія кнігі так і назваў: “Плач зямлі”, “Дрэва жыцця”, “Галгофа”, “Неўміручасць”, “Ушанаванне”. Алег Антонавіч быў не толькі таленавітым, але і мудрым, мужным чалавекам. Ён ўсё прадбачыў наперад, адчуваў час, і са шчырым спачуваннем хацеў нам дапамагчы:

Не дабягу, — дайду,
Не дайду, — дапаўзу
У кожную бяду,
У кожную слязу…



**Алег Лойка са студэнтамі**
**ўніверсітэцкага літаб’яднання “Узлёт” БДУ, 1981 г.**

# ПАЭТ, ЯКІ ЗБІРАЎ СОНЦА



**Рудольф Пастухоў**

У верасні 1996 года на летніку ў вёсцы Чамяры недалёка ад Слоніма мы адзначалі 60-годдзе слонімскага паэта і грамадскага актывіста Рудольфа Пастухова. На юбілей тады прыехалі яго самыя блізкія сябры. Быў сонечны і цёплы верасень, такі ціхі, як сёлета. Былі ўсмешкі сяброў, пажаданні і вершы, прысвечаныя юбіляру. Ну, напрыклад, як гэтыя радкі Алеся Чобата:

За вёскай Чамяры Палеткі і бары –
Прыгожа так, што не знаходзіш слова.
І хоць абрыдла жыць,
А добра тут пабыць
На сотках у Рудольфа Пастухова…

Рудольф шмат курыў, быў вельмі спакойны і шчаслівы.

–Усе чумарыкі прыедуць, – сказаў ён і ўсміхнуўся.

–Хто-хто? – перапытаў я.

–Чумарыкі. Такое ў нас сяброўскае таварыства ёсць. Мы яго самі прыдумалі і стварылі. Сюды ўваходзяць тыя, хто добра разумее гумар і жарты, хто фізічна здаровы і мае здольнасці ў літаратуры, журналістыцы, культуры, музыцы і г.д. – растлумачыў Рудольф Аляксеевіч. А пасля

дадаў: “Сёння на маім юбілеі ў чумарыкі прымем і цябе. Ты ў нас будзеш самым маладым чумарыкам”.

Калі сабраліся ўсе госці, пачалася працэдура прыняцця мяне ў чумарыкі. Смеху было на ўсю чамяроўскую дачу. Нават розныя гумарыстычныя перадачы не змаглі б канкурыраваць у той дзень з вясёлай кампаніяй слонімскіх чумарыкаў…

Такім запомніўся мне той апошні юбілей Рудольфа Пастухова — тутэйшага паэта, інтэлігента, шчырага, вясёлага чалавека і адданага сябра. Хто тады ў верасні 1996 года мог падумаць, што праз год яго не стане? Раптоўна і нечакана… А мы з ім яшчэ шмат думалі і выношвалі п’есу «Камера», якая засталася незакончанай. Хацелі разам напісаць пра сталінскія лагеры і паставіць на сцэне Слонімскага драматычнага тэатра. Гэта яго верш «Курапаты» у кастрычніку 1988 года быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» у перакладзе Івана Сяргейчыка і выклікаў шмат станоўчых водгукаў. Моцная дакладная рыфма гучала водгукамі стрэлаў, якія знішчалі тут усё жывое, нават тое, што забіць нельга:

Не Бухенвальд тут,
Не Хатынь,
А – Курапаты.
Замшэлы лес –
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрца стук
На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б’е
Паклон зямлі
Людская памяць…

Рудольф Пастухоў рыхтаваў да друку свой другі зборнік вершаў, актыўна займаўся перакладамі з беларускай мовы на рускую. А першы і адзіны ягоны зборнік вершаў выйшаў у Слонімскай друкарні ў 1994 годзе з кароткай назвай “Судьба”. Прадмову да зборніка напісала Данута Бічэль, а пасляслоўе “Гісторыя аднаго з нас” – Алесь Чобат. Данута Бічэль сваю прадмову да кнігі назвала “Паэт з берагоў Шчары”. Яна пачыналася такімі радкамі: “Звычайны, чалавечы, людскі лёс… Але ці звычайны? А калі незвычайны, дык ці не таму, што паэт Рудольф Пастухоў жыве ў гэтым Краі? Ён – рускі, але тутэйшы, свой. Ён – электрык, але інтэлігент. У яго ўсё проста – і адначасова ўсё заглыблена, перакручана, ускладнена. Ён – паэт, але ўжо ў сталым веку выдае сваю кнігу. Але добрую…”.

Кніга, сапраўды, атрымалася добрая. А вось гэтыя радкі мне назаўсёды запалі ў душу:

Это просто ставни скрипят,
Как шаги на снегу…
…Я во сне на подушке распят –
Но к тебе распятым бегу.



**Рудольф Пастухоў (чацвёрты злева) з пісьменнікамі Слоніма**

Часта Рудольф Пастухоў прыносіў мне свае вершы. “Няхай будуць у тваім хатнім архіве. Можа, калі спатрэбяцца”, — казаў ён. Наогул, калі мне рабілася сумна і адзінока, я тэлефанаваў Рудольфу Аляксеевічу. “Прыязджай да мяне”, — казаў ён у тэлефонную трубку і чакаў майго візіту. Мы гутарылі пра жыццё, пра палітыку, пра літаратуру. Ён ніколі нікому не зайздросціў, заўсёды быў шчырым старэйшым сябрам, дарадцам, кансультантам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці. А лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з’явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці (Расія) у 1951 годзе. Пра што ён пісаў, нават сам аўтар не памятаў.

Шляхі-дарогі паэта кідалі па ўсім былым Савецкім Саюзе. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у Слонімскай райгазеце з’явілася ягоная першая паэтычная падборка. А аднойчы, напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у “Гродзенскую праўду” да Васіля Быкава, які працаваў тады ў газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, пагутарыў з паэтам са Слоніма, а праз пэўны час лепшыя з вершаў з’явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі.

Вершы паэта з берагоў Шчары друкаваліся ў іншых рэспубліканскіх і абласных газетах і часопісах, а таксама ў зборніках “Дзень паэзіі-98”, “Золак над Шчарай”, расійскіх выданнях. Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся ў Слоніме грамадска-палітычнай дзейнасцю, выбіраўся дэпутатам Слонімскага гарсавета. Ён быў першым кіраўніком Слонімскай суполкі Беларускага Народнага фронту. Але заўсёды і ўсюды пісаў вершы.

Пісаў іх за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у доме культуры, на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы, дзе да пенсіі працаваў электраманцёрам. Але лепш за ўсё яму пісалася дома ў слонімскай кватэры і на летніку ў Чамярах:

Я солнце собираю по лучам,
В охапку, как большой букет сирени.
Несу тебе – пусть светит по ночам,
Убрав из жизни сумерки и тени…

Рудольфа Пастухова няма ўжо 23 гады. 28 верасня 2020 года яму споўнілася б 84. Шкада, што такія людзі нас рана пакінулі. Але ў памяці тых, хто ведаў яго і чытаў ягоныя творы, паэт застанецца надоўга. Ну, як у яго паэтычных радках:

Мне очень надо встретиться с тобой,
Что б от тебя до смерти не уйти…



**Рудольф Пастухоў (у цэнтры) са сваімі сябрамі на дачы, 1996 г.**

# ЁН ХАЦЕЎ УПРЫГОЖЫЦЬ СЛОНІМ



**Леанід Богдан каля бюста М.К.Агінскага**

У апошні дзень красавіка 2017 года трагічна загінуў адзін з таленавітых людзей Слоніма – Леанід Богдан, якому ад нараджэння Бог надарыў яго талентам мастака.

У школе Лёня быў звычайным хлопчыкам, нават трохі сарамлівым. Але, калі пачынаў нешта рабіць – майстраваць ці маляваць – то атрымлівалася лепш за ўсіх школьнікаў і нават настаўнікаў.

Праўда, пасля школы лёс яго закінуў не ў мастацкае вучылішча, а ў чыгуначны тэхнікум. Аднак жаданай рамантыкі ў тэхнікуме і на чыгунцы ён не знайшоў. Таму хутка паступіў у Маскоўскі завочны народны універсітэт мастацтваў. Вучыўся на факультэце жывапісу і графікі. Вучоба падабалася і Леанід шмат даведаўся новага і цікавага пра скульптуру. Таму пасля сесій і працы, з радасцю браўся за гліну і пластылін, з якіх ён ляпіў знаёмых сяброў і суседзяў.

Калі скончыў універсітэт, Леанід нікуды не паехаў, а назаўсёды свой лёс звязаў з родным Слонімам, які вельмі моцна любіў і хацеў, каб ягоны горад над Шчарай быў самым прыгожым у Беларусі, і каб яго штогод наведвалі тысячы турыстаў з усіх краін свету.

У 1970-х-1980-х гадах Леанід Богдан працаваў у Слоніме на розных работах, але найбольш падабалася мастаком-афарміцелям у кінатэатры “Мір”. Ён не толькі выконваў мастацкія працы ў кінатэатры, але сур’ёзна захапіўся скульптурай, а потым – і гісторыяй роднага краю, біяграфіяй яго знакамітых людзей. Ён стаў шмат чытаць, знаходзіць матэрыялы па

гісторыі Слонімшчыны, Беларусі, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. І вядома ж, ствараць партрэты знакамітых людзей.

Першымі яго самастойнымі бюстамі былі партрэты касманаўта Юрыя Гагарына і паэта Валянціна Таўлая. Калі працаваў над бюстам Валянціна Таўлая – шмат перачытаў літаратуры пра яго, вершаў паэта. Нават кансультаваўся ў слонімскага пісьменніка Анатоля Іверса (Івана Міско), які некалі сябраваў з Таўлаем. Менавіта ад Анатоля Іверса Леанід даведаўся і пра гісторыю Слонімшчыны, пра дзейнасць у першай палове XX стагоддзя Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Зрабіў у 1987 годзе і выдатны бюст паэта Анатоля Іверса.

А потым слонімскі мастак зацікавіўся творчасцю Адама Міцкевіча. Перачытаў яго паэмы. А адна – "Гражына" – проста зачаравала скульптара. Пасля гэтага Леанід стварае скульптурны вобраз Гражыны – наваградскай князёўны. Лічу, гэта адна з найвыдатнейшых ягоных прац.

Дзесьці ў канцы 1980-х гадоў я і пазнаёміўся з Леанідам. Памятаю, быў час, калі ён на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы так прыгожа аформіў дыскатэку, што гэта была адна з найлепшых дыскатэк па тым часе. А, напрыклад, у Слонімскім гарбыткамбінаце ён зрабіў цудоўны тэнісны корт. Ды і сам час ад часу любіў пагуляць у тэніс.

І ўсё ж мастацтва і скульптура ў ім проста жылі і перамагалі. Леанід стварае бюсты сваіх сяброў, пісьменнікаў, дзеячаў грамадскага руху 1920-х-1930-х гадоў. Ён вылівае іх з гіпсу і дорыць бясплатна не толькі сябрам і знаёмым, але і школам, бібліятэкам, музеям. Нават зрабіў мой бюст у 1999 годзе. Адзін асобнік падараваў мне, ён знаходзіцца ў маіх хатнім кабінеце.

Шчыра сябраваў Леанід Богдан з нашым земляком доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам. І яго бюст таксама зрабіў.

Ён стварыў вялікі герб Слоніма. І дзесяткі маленькіх. Марыў вялікі герб Слоніма паставіць у цэнтры горада.

Леанід Богдан быў, як кажуць, майстрам на ўсе рукі. Сотні разоў бываючы ў яго майстэрні, я здзіўляўся яго апантанасці, майстэрству, фантазіі. Лёня быў сціплым чалавекам, не кожнаму ён мог расказаць пра свае творчыя планы, а тым больш паказаць, як ён працуе, шліфуе, перарабляе. З ім трэба было сябраваць доўга і шчыра, бо толькі тады ён мог па-сяброўску распавесці пра свае творчыя задумкі.

У яго майстэрні заўсёды ішоў творчы працэс. Шмат часу ён аддаў, працуючы над помнікам Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Лёня мне казаў, што ён мяркуе гэты помнік ўсталяваць у Слоніме ў цэнтры горада каля музея замест бюста арла, які там стаіць, бо той арол зусім не пасуе. На спецыяльным пастаменце, распавядаў Леанід, будзе ляжаць сам вялікі Статут. На Статуце – адціснутая далонь. Кожны слонімец ці госць горада зможа падыйсці да гэтага помніка-кніжкі, прачытаць яе і даведацца, што гэта Статут Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць – звод законаў нашай дзяржавы, помнік беларускай пісьменнасці, мовы і юрыдычнай думкі, і прыкладзе ў адціснутую далонь сваю, нібыта зложыць клятву перад Статутам у любові да сваёй Бацькаўшчыны.

Гэта дзякуючы Леаніду Богдану мы маем у Слоніме мемарыяльную шыльду, прысвечаную заснавальніку Слонімскага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму, якая прымацавана на будынку музея. Гэта Леанід зрабіў шыльду піянеру-герою Васі Крайняму. І яго заслуга ў тым, што ён стварыў і прымацаваў на будынку Слонімскага драмтэатра шыльду, прысвечаную Міхалу Казіміру Агінскаму (1730-1800) – пачынальніку тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне. І ўсё гэта Леанід Богдан зрабіў бясплатна і падараваў Слоніму.

Нядаўна Леанід паклікаў мяне ў майстэрню і паказаў сваю новую працу, прысвечаную Агінскім. Я ўбачыў н**а** барэльефе адлюстраваны слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі, які сядзіць за піяніна, а побач стаіць яго пляменнік Міхал Клеафас Агінскі са скрыпкай, аўтар шматлікіх паланэзаў, у тым ліку і паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай». На крышцы піяніна напісаныя словы: «Слонім. Агінскія. Паланэз». А воддаль, нібы праз вакно, віднее стары Слонім з ягонымі архітэктурнымі храмамі XVIII—XIX стагоддзяў. Цудоўная задума і твор скульптара – яшчэ адзін помнік славутым Агінскім, лёс якіх быў звязаны і са старажытным горадам над Шчарай.

На вуліцы Савецкай у Слоніме захаваўся будынак другой паловы XVIII стагоддзя, пабудаваны архітэктарам Боем, які ён праектаваў пры палацы Міхала Казіміра Агінскага. Пры палацы Агінскага ў гэтым будынку была аўстэрыя (заезны дом). Ён сёння нагадвае слонімцам і гасцям горада пра Міхала Казіміра Агінскага. Некалі свой Слонім Агінскі ператварыў у "сядзібу музаў", вядомую ва ўсёй Еўропе, але сёння амаль забытую ў Беларусі. Слонімскі скульптар Леанід Богдан стварыў бюст Міхала Казіміра Агінскага. Ён марыў яго ў спецыяльнай арцы прымацаваць на былой аўстэрыі Агінскага. Каб слонімцам і гасцям горада над Шчарай было бачна, хто з'яўляўся некалі яго гаспадаром.

Нядаўна на вуліцы Опернай у Слоніме быў пастаўлены вялікі валун. На ім выбіты тэкст: Замчышча і гады: XI-XVIII ст.ст. Гэта таксама работа Леаніда Богдана. Дарэчы Слонімскі замак (замчышча) — назва старажытнага цэнтра Слоніма, а таксама шэрагу палаца-паркавых комплексаў пабудаваных на яго месцы ў XI – XVIII стагоддзях. Спачатку быў пабудаваны драўляны астрог, потым дзядзінец, а пазней – драўляны замак на высокім насыпе з падпорнай сценкай з вялікіх камянёў, які быў разбураны пасля 1506 года. У 1520 годзе перабудаваны ў невялікі драўляны палац з залай пасяджэнняў, дзе ў другой палове XVII стагоддзя адбываліся генеральныя сеймікі. Палац быў абнесены драўлянымі гароднямі з вежамі. Цяпер пра замчышча ў Слоніме будзе нагадваць вялікі валун. Гэты самы валун слонімцам будзе нагадваць і пра скульптара Леаніда Богдана.

Адной з апошняй нашай сумеснай паездкай на аўтамабілі Леаніда была вандроўка ў вёску Орлавічы на магілу Стаброўскіх. З намі разам паехалі яшчэ мастак Яўген Іваноў і грамадская актывістка Леанарда Рэўкоўская. Мы прыбралі магілы, запалілі запальнічкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён глыбока нешта думаў, а потым

сказаў: “Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба добраўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх”. Мы – пагадзіліся. А па дарозе ў Слонім Леанід распавядаў пра свае новыя планы, найперш звязаныя з каналам Агінскім і з праектам па добраўпарадкаванню канала, удзел у якім ён ужо актыўна прымаў. Але трагічны лёс ўсе яго планы раптоўна перакрыжаваў. А яму было толькі 64 гады.




**З мастаком Андрэем Сідаравым**



**Праца над барэльефам Язэпа Стаброўскага**

# ЛЕСНІЧОЎКА УЛАДЗІМІРА САСНОЎСКАГА



**Малады Уладзімір Сасноўскі, 1960-я гады**

**Прыпынак каля аленя**

Калі ехаць са Слоніма на Зэльву праз вёску Чамяры, то пасажыры пры лесе з правага боку заўважаць некалькі драўляных будынкаў, сярод іх ёсць і двухпавярховы. Гэтыя будынкі знаходзяцца амаль на мяжы Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў. А за будынкамі здалёк свеціцца агеньчыкамі прыдарожная карчма вядомага на Зэльвеншчыне фермера Міхаіла Макея. Карчма знаходзіцца ў былой Сынковіцкай участковай бальніцы, будынак якой быў узведзены яшчэ ў 1930-х гадах. Праўда, калі будынак пераабсталявалі пад карчму, лічбы на будынку перарабілі на 1831 год. Для чаго гэта было зроблена – можна толькі здагадвацца. Атрымалася, што буданак карчмы пабудавалі яшчэ да паўстання Кастуся Каліноўскага. Але гэта далёка не так. Будынак былой бальніцы з'явіўся каля лесу ў Сынковічах у 1930-х гадах. Будаваўся ён, як і іншыя, пры гаспадару пану Чапскім.

Пасля Другой сусветнай вайны, калі Чапскія ў 1939-м годзе пакінулі Сынковічы, у гэтых будынках знаходзілася Сынковіцкая бальніца. А ў дамах каля яе жылі тыя, хто там працаваў, лячыў людзей, займаўся

гаспадарчымі справамі. Жыхары суседніх вёсак Сынковічы, Елка, Казловічы, Шулякі, Чамяры, Хадзявічы гэта месца называлі проста – Леснічоўка. І кіроўцы, якія ехалі па шашы, спыняліся каля помніка аленю на вялікім п’едэстале. Гэта быў своеасаблівы прыпынак для мясцовага люду. Яны так і казалі: “Спыніце мне, калі ласка, аўтобус ці машыну каля аленя”. І кіроўцы спынялі. Прайшлі дзесяцігоддзі, помніка лясному жыхару таксама ўжо даўно няма. Знік і драўляны двухпавярхоўны галоўны корпус бальніцы.

**Слова пра Уладзіміра Сасноўскага**

У сакавіку 1945 года прыехаў на Зэльвеншчыну медработнік Уладзімір Сасноўскі. Ён якраз дэмабілізаваўся з фронта. Спачатку працаваў у вёсцы Холстава Зэльвенскага раёна, а потым фельчара Сасноўскага накіравалі ў Сынковіцкую бальніцу, якая тады адносілася да Слонімскага раёна.

Уладзімір Сасноўскі быў родам з вёскі Каменка Дзяржынскага раёна. З маленства любіў музыку, іграў, як успамінае яго дачка Лілія Сасноўская, на ўсіх музычных інструментах. Таму вырашыў юнак свой лёс звязаць з музыкай і паехаў у Ленінград вучыцца, дзе яго і застала вайна. Працаваў на Кіраўскім заводзе, адліваў карпусы гранат і мін. Потым прымаў удзел у абароне горада на Няве. А ў 1942 годзе Уладзіміра Сасноўскага накіравалі на вучобу ва Уладзімірскае пяхотнае вучылішча. Дарэчы, ён на два гады напісаў сябе ва ўсіх дакументах старэйшым, каб узялі на фронт. Пасля вучылішча ўдзельнічаў у баях за вызваленне Украіны і Польшчы ў складзе Другога Украінскага фронту, а затым – Другога Беларускага фронту. Разведчык-кулямётчык Сасноўскі быў двойчы паранены, цяжкае раненне атрымаў пры вызваленні Польшчы. “Медаль “За адвагу” бацьку знайшла праз 25 гадоў пасля вайны”, -- прыгадвае дачка Сасноўскага Лілія Уладзіміраўна.

У 1964 годзе Уладзімір Сасноўскі скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Дыплом яму выдалі пад нумарам 4. Падчас вучобы ўсе гады студэнт Сасноўскі ў інстытуце быў старастам курса, яго любілі і паважалі аднакурснікі і выкладчыкі. Пасля медінстытута Сасноўскага накіравалі ў Альшаны, але яму спадабаліся Сынковічы і ён марыў вярнуцца ў сваю Леснічоўку. І ў 1966 годзе мара доктара спаўняецца і ён вяртаецца на Зэльвеншчыну назаўсёды.

**Сяброўства з доктарам Нечыпарэнкам**

У Леснічоўцы сёння жывуць дзеці Уладзіміра Сасноўскага – Лілія і Генадзь. Па словах Ліліі Уладзіміраўны, бацька яе і маці Марыя пазнаёміліся ў Леснічоўцы. “Мама таксама скончыла Гродзенскі медінстытут, яна была на пару гадоў старэйшая за бацьку. Пасля інстытута яе накіравалі ў Сынковічы ў бальніцу, тут яны пазнаёміліся і пажаніліся. А ў 1952 годзе нарадзілася я”, -- распавядае Лілія Сасноўская.

Пасля вайны ў Леснічоўцы жыло шмат людзей. Сасноўскі нават паклікаў сваіх сваякоў бліжэй да сябе ў той няпросты пасляваенны час,

якія потым раз’ехаліся ў розныя куткі Беларусі. Спачатку бальніца ў Сынковічах была ўчастковай, потым тут лячылі людзей ад сухотаў, пасля яна стала геранталагічнай, уралагічнай, а потым была проста амбулаторыяй. Назвы мяняліся, але доктар Сасноўскі, які ўзначальваў гэту бальніцу, лячыў мясцовы люд ад усіх хваробаў. І людзі пра доктара ведалі не толькі ў суседніх вёсках і хутарах, але і ва ўсім Слонімскім, Зэльвенскім і Ваўкавыскім раёнах. Прыязджалі да яго здалёк на розныя кансультацыі і вядома ж падлячыцца. І доктар лячыў, бо меў добрую медыцынскую адукацыі і вопыт.



**Каля Сынковіцкай бальніцы, 1960-я гады**



**Уладзімір Сасноўскі з гродзенскім доктарам Аляксандрам Нічыпарэнкам у Леснічоўцы**

Шчыра сябраваў Уладзімір Сасноўскі з вядомым гродзенскім уролагам-анколагам, вучоным, педагогам Аляксандрам Нечыпарэнкам (1916-1980). Тым самым доктарам, які з'яўляецца аўтарам даследавання элементаў крыві ў асадку мачы (аналіз мачы па Нечыпарэнку). Аляксандр Захаравіч шмат разоў прыязджаў да Уладзіміра Сасноўскага ў Леснічоўку. Яны доўга гутарылі пра розныя медыцынскія справы, разам вырашалі пытанні ўралогіі, дзяліліся медыцынскім вопытам. Адзін з іх быў добры практык, другі – тэарэтык і педагог, які загадваў курсам уралогіі Гродзенскага мединстытута.

У сям'і Сасноўскіх захавалася некалькі здымкаў, сярод іх ёсць і сфатаграфаваныя візіты Аляксандра Нечыпарэнкі з Гродна ў Леснічоўку. На адным са здымкаў зафіксаваны той момант, калі Сасноўскі праважае Нечыпарэнку каля помніка з аленем.

**Фэд-2 і альтанка**

"Я вельмі люблю сваю Леснічоўку, -- шчыра распавядае Лілія Сасноўская. – Цяпер часта думаю, вось чаму спадабалася маім бацьку і маці гэта месца. Якія тут прыгожыя раніцы і вечары! Бывала выйду на ганачак, сяду і гляджу на лес, успамінаю маленства і бацькоў, а таксама тых людзей, якія тут жылі і працавалі. І на душы становіцца светла і радасна".

Уладзімір Сасноўскі любіў сваіх землякоў, у любы час сутак іх прымаў у бальніцы, уважліва слухаў скаргі на хваробы і лячыў, лячыў, лячыў. А ў вольны час шмат чытаў кніг па медыцыне, выпісваў газеты і часопісы, любіў фатаграфаваць. "У бацькі быў фотаапарат Фэд-2, ён яго заўсёды браў з сабой, фатаграфаваў Леснічоўку, людзей, прыроду…", -- успамінае Лілія Сасноўская.

Памёр даўно ветэран вайны і доктар Уладзімір Сасноўскі. Няма ўжо ў зэльвенскай Леснічоўцы бальніцы, пра якую нагадвае толькі некалькі старых даваенных будынкаў. Згніла і старая альтанка Чапскіх, дзе гулялі дзеці мясцовых медыцынскіх работнікаў. Але старэйшы люд па сённяшні час памятае Леснічоўку Уладзіміра Сасноўскага. Пра што не ведаюць тыя пасажыры, якія побач праязджаюць, спашаючыся на захад і ўсход на сваіх аўто.



**Уладзімір Сасноўскі каля альтанкі Чапскага ў Сынковічах. Альтанка не зберагласся**

# ГІСТОРЫЯ Ў АРТЭФАКТАХ



**Міхаіл Шуляк у Міры**

У Слонімскай друкарні пабачыла свет кніга Міхаіла Шуляка “Па следу продкаў” (2017). Міхаіл жыве ў Слоніме, родам ён з вёскі Азярніца Слонімскага раёна. Гісторыяй сваёй вёскі ён зацікавіўся даўно. “Па следу продкаў” – першае даследаванне краязнаўца.

Прадмову да кнігі напісаў загадчык вучэбнай лабараторыі музейнай справы гістарычнага факультэта БДУ Віталь Сідаровіч. Ён адзначыў, што важным момантам, які адрознівае гэтую кнігу ад шэрагу падобных (на першы погляд) публікацый, з’яўляецца актыўнае выкарыстанне матэрыяльных сведчанняў – археалагічных артэфактаў, манет і г.д. Гэта дазволіла аўтару пазбегнуць шаблоннага перапісвання чужых думак. А ў некаторых частках кнігі артыкулы з’яўляюцца сапраўдным навуковым даследаваннем. Варта падкрэсліць, што шэраг археалагічных артэфактаў у кнізе апублікаваны ўпершыню, што робіць гэтае выданне важным для археалагічнай навукі.

Сапраўды, Міхаіл Шуляк шмат гадоў шукае сляды продкаў каля роднай вёскі Азярніца на Слонімшчыне. Знойдзеныя артэфакты і ляглі ў аснову краязнаўчага даследаванння.

Кніга Міхаіла Шуляка распачынаецца вершам “Сінявокая Азярніца”, які напісала яго маці. Гэта верш-прызнанне ў любові да роднай

вёскі, якая з'яўляецца і "радасцю песні, і горыччу тугі". Верш і распачынае сцяжыну ў мінулае і сучаснае вёскі Азярніца. У прадмове "Ад аўтара" Міхаіл Шуляк робіць невялікі ракурс у гісторыю сваёй вёскі. Ён пачынаецца з азярніцкай царквы 1867 года, якая знаходзіцца "каля магілы старшыні Азярніцкай воласці Мацвея Макарэвіча..., закатаванага ўдзельнікамі паўстання 1863-1864 гг.". А можа, наадварот, магіла Макарэвіча знаходзіцца каля царквы ў Азярніцы?.. Я не думаю, што для вяскоўцаў Азярніцы больш важнейшай з'яўляецца магіла Макарэвіча, чым сама царква. Тым больш, што па віне гэтага самага Макарэвіча, царскія "мураўёўцы"знішчалі паўстанцаў, сярод якіх быў і Карл Масальскі. Дарэчы, помнік Макарэвічу быў пастаўлены ў 1889 годзе з шыльдай, на якой было напісана па-расійску: "Здесь покоится прах старшины Озерницкой волости Матвея Михайловича Макаревича, повешенного мятежниками 1 июля 1963 года за Веру, Царя и Отечество". Але шыльды даўно няма, яе збілі з помніка яшчэ да Другой сусветнай вайны. Вось такі каля царквы ў Азярніцы ляжыць "герой за Веру, Царя и Отечество".

Пра ўсё, што я згадаў вышэй, гэта не так датычыць зместу кнігі Міхаіла Шуляка, як мае значэнне для жыхароў Азярніцы. І ўсе мы пра гэта павінны ведаць і памятаць.

А цяпер давайце пагартаем кнігу. Аўтар сваё першае даследаванне падзяліў на некалькі частак. У першай частцы размова ідзе пра каменны і бронзавы вякі на тэрыторыі каля Азярніцы. Як мяркуе Міхаіл Шуляк, на тэрыторыі, дзе зараз знаходзіцца вёска Азярніца, чалавек ўпершыню з'явіўся не пазней, як у канцы каменнага – пачатку бронзавага вякоў. А самай старажытнай знаходкай, якую ўдалося адшукаць у раёне Азярніцы, на думку Міхаіла Шуляка, з'яўляецца бронзавая сякерка. Вага сякеркі толькі 116 грам, а даўжыня – 6,45 грамаў. Гэта адзіная знаходка часоў бронзавага веку, якая была знойдзена каля вёскі Азярніца. І, як мяркуе аўтар кнігі, гэта знаходка пацвярджае, што на азярніцкай тэрыторыі яшчэ ў перыяд ранняй бронзы прысутнічалі плямёны культуры шнуравой керамікі, якія мелі даволі трывалыя сувязі з прадстаўнікамі іншых культур. "Менавіта падчас кантактаў з суседзямі і атрымлівалася, шляхам абмену, здабываць медныя або бронзавыя прадметы, якія яшчэ доўгі час, амаль да пачатку нашай эры, лічыліся дэфіцытам і масава не распаўсюджваліся", -- піша аўтар кнігі "Па следу продкаў".

Другі раздзел – жалезны век на азярніцкай тэрыторыі. Тут аўтар распавядае пра шыйную грыўню, якая была знойдзена каля вёскі Варонічы, а гэта далей ад Азярніцы. Знойдзены артэфакт датуецца прыблізна V-III стст. да нашай эры і з'яўляецца адзінай падобнай знаходкай на тэрыторыі Беларусі. Гэту шыйную грыўню аўтар кнігі перадаў у музей гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Самай старажытнай знаходкай часоў жалезнага веку каля Азярніцы з'яўляецца срэбная манета – парфянская драхма Фраата IV, які правіў з 38 па 2 гг. да нашай эры. Выяўлены каля Азярніцы і вочкавая фібула (зашпілька на адзенні) прускага тыпу канца першага – пачатку другога

стагоддзяў нашай эры. Згадвае аўтар у сваёй кнізе і знаходку антычных часоў з-пад Азярніцы – гэта прывеску-званочак III-IV стст. Званочак выкарыстоўваўся ў якасці ўпрыгожвання.Не менш цікавую знаходку прыгадвае аўтар – гэта спінкі для прагнутых двучленных падвязных фібул, якія датуюцца IV ст. – пачаткам V ст. нашай эры знайшоў аўтар кнігі і спінкі дзвюх прагнутых двучленных падвязных фібул і іншыя. Як сцвярджае Міхаіл Шуляк, позні знаходкі жалезнага веку з тэрыторыі каля вёскі Азярніца адсутнічаюць.

У раздзеле перыяду Сярэднявечча аўтар прыгадаў не толькі знойдзеныя артэфакты, але і пра настаяцеля Сынковіцкай царквы Яўстафія Міхайлоўскага, які шмат зрабіў для гэтага храма, а таксама займаўся археалагічнымі пошукамі. Ён раскапаў адзін курган у ваколіцах Азярніцы ў 1892 годзе і знайшоў колца з белага металу, розныя пліткі, кавалкі дрэва і г.д. Сам аўтар каля Азярніцыі адшукаў толькі два артэфакта – гэта зааморфны бранзалет XI – XIII стагоддзяў і фрагмент падкавападобнай фібулы. З перыяду Сярэднявечча Міхаіл Шуляк раскапаў і апісаў свінцовы амулет-сякерку, пломбу і бочкападобную дзірхамную гірку IX-XIII стагоддзяў і іншыя…




**Вокладка кнігі**

Спіс розных артэфактаў знойдзеных у ваколіцах Азярніцы аўтарам кнігі і цікава апісаных можна працягваць яшчэ доўга. Па сутнасці кніга Міхаіла Шуляка – гэта археалагіна-краязнаўчае даследаванне вёскі Азярніца і навакольных вёсак. Таму кніга “Па следу продкаў” смела можа з’яўляцца добрай дыпломнай працай выпускніка гістарычнага факультэта. А калі яе пашырыць, дапоўніць рознымі іншымі артэфактамі – яна цягне на кандыдацкую дысертацыю.

Дарэчы, у кнізе апублікавана шмат фотаздымкаў, а таксама акты прыёмаў выяўленых археалагічных артэфактаў і іншыя дакументы. Многія археалагічныя знаходкі Міхаіл Шуляк бясплатна перадаў у вучэбную лабараторыю музейнай справы гістарычнага факультэта БДУ і ў краязнаўчы музей Слонімскай гімназіі.

# АД КАМЯНЁЎ ДА ПАСТАРАЛІ




**Зьніч (Алег Бембель) і Алесь Клышка, 2007 г.**

Добрую і неабходную справу распачалі яшчэ шэсць гадоў таму беларускія літаратары Алег Бембель (Зьніч) і Алесь Клышка, якія выдалі дзве кнігі свайго сумоўя. Першая — “Жыровіцкія камяні” (Мн., Беллітфонд, 2006), другая — “Шлях да Жыровічаў” (Мн., Выдавец В.Хурсік, 2007). І вось праз такі доўгі шлях да чытачоў прыйшла іх трэцяя кніга —“Жыровіцкая пастараль”(Мн., 2012).

Трэцяя кніга значна адрозніваецца ад ранейшых, хаця назва выдання неяк суцяшае, супакойвае і шчасліўціць. Калі ў першых дзвюх аўтары сумоўя разважалі больш пра беларускія праблемы: стан роднай мовы, лёс Беларусі ў XXI стагоддзі, месца Беларусі ў духоўнай прасторы планеты, духоўнае адраджэнне Бацькаўшчыны. То новая кніга далёка ад сапраўднай ідыліі нашага складанага, няпростага жыцця, пра якое разважаюць Зьніч і Алесь Клышка.

Добрую і неабходную справу распачалі яшчэ 14 гадоў таму, іх тэмы сумоўя пайшлі далёка за межы Радзімы. Гэта і палітыка, і сусветныя катаклізмы, і ўзаемаадносіны розных канфесій, рэлігійных дзеячаў і вучоных, дзяцей і бацькоў, а таксама лёс простага люду. З многімі разважаннямі шаноўных аўтараў кнігі можна пагадзіцца, а з некаторымі іх суб'ектыўнымі думкамі — не. Радуе, што дыяпазон іх разважанняў вялікі, дзе скразной лініяй праз усё сумоўе праходзяць духоўныя і агульначалавечыя каштоўнасці.

Вядома ж, не былі б Зьніч і Алесь Клышка паэтамі, каб у такім складаным, шырокім сумоўі не гняздзілася б іх паэзія. Вершы Зьніча дапаўняюць гутарку, нават адказваюць на некаторыя пытанні, нясуць у сабе філасофскі сэнс. Іх лірычныя героі спрабуюць у сэрцы сваім крануць мяжу паміж чалавечым і Богачалавечым — і запрашаюць чытачоў далучыцца да гэтага таемнага памкнення.

Першая іх сумесная кніга выспела ў Жыровічах на Слонімшчыне. Выспела каля старых муроў Успенскага сабора, Богаяўленскай царквы, Крыжаўздзвіжанскай і Георгіеўскай. А потым з Жыровічаў шлях іх сумоўя пралёг па ўсёй Бацькаўшчыне і нават па-за яе межамі. Магчыма, “Жыровіцкая пастараль” ад Зьніча і Алеся Клышкі стане духоўнай пастараллю для ўсіх беларусаў. Будзе яна прарочай, і мы дажывем, калі не трэба будзе ідылічна паказваць жыццё беларусаў на лоне прыроды ці каля Жыровіцкай святой крыніцы. Верыцца, што жыццё беларусаў, насамрэч, стане светлым і шчаслівым, бо, як бы там не было, Беларусь у аўтараў гэтага выдання, пачынаецца са святых Жыровічаў, бо “тут — сэрца Беларусі і да яго — у кожнага — свой шлях” (Зьніч).

У 2016 годзе Алесь Клышка і манах Іаан (Бембель) выдалі асобнай кнігай “Выбранае ад дыялогаў”. У ёй аўтары працягваюць разважаць пра лёс Беларусі ў сучасным свеце, пра палітыку і літаратуру.



## ЗМЕСТ



---


*Літаратурна-мастацкае выданне*



Сяргей Мікалаевіч ЧЫГРЫН

Ад СЛОНІМА
да ЖЫРОВІЧ

Гісторыка-краязнаўчыя
артыкулы

Тэхнічнае рэдагаванне А. Хахол

Выдавецтва раздзяляе не ўсе пункты поглядаў аўтара.

Падпісана да друку 19.04.2020. Фармат 84 × 90 1/8. Папера ксераксная.
Рызаграфія, лічбавы. Ум. друк. арк. 16,50. Ул. выд. арк. 6,20. Тыраж 99 экз.
Заказ .

Выдавец і паліграфічнае выкананне А. Г. Хахол.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/528 ад 17 студзеня 2018 г.
Юрыдычны, паштовы адрас: вул. Крайняя, 118, 225413 г. Баранавічы.
Тэл. +375 29 805 27 85, e-mail: is_fenix@tut.by www.fenix-khokhol.by